7 траўня 2021 | № 17 (725)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы час

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

ISSN 2218-2144

КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА

ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

«Збіраліся дабіць дэпутатаў і прэзідэнта...»
стар. 9



# Як галінка пад снегам

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**Цяперашні стан беларускага грамадства можна параўнаць са станам галінкі пад гурбай снегу. Здаецца, яна не можа вытрываць гэты цяжар, які ўтрая большы за яе саму. Але, як ні дзіўна, галінка не ламаецца.**

Пасля таго, як скончыліся, дакладней, былі зачышчаныя масавыя вулічныя пратэсты, шмат хто ўпаў у роспач і адчай, страціў надзею і веру ў перамогу. Здаецца, што ўсё марна, а рэпрэсіўная машына, якая і так неслася з шалёнай хуткасцю, працягвае набіраць абароты. І страх, які пранікае ў самыя косткі, паралізуе волю і свядомасць. Анягож — калі штодня ў навінах нам абяцаюць, што нас «зачысцяць», пагражаюць сем'ям, забіраюць дзяцей.

І вось ужо перад выхадам на вуліцу мы, нават самі не заўважаючы, пераглядаем гардэроб — каб не было спалучэння «небяспечных» белых і чырвоных колераў. Чысцім месенджары і падпіскі. Ужо даўным-даўно не жывём, а існуем, агорнутыя ліпкай трывогай, якая не праходзіць ні ўдзень, ні ўначы, не дае спаць і радавацца нават самым звычайным рэчам.

Але варта ўспомніць, што ўсё гэта — даўно адпрацаваныя метады псіхалагічнага ўздзеяння. Галоўная мэта таталітарызму — запалохаць, паралізаваць супраціў і іншадумства, паказаць, што тых, хто «не з імі», чакаюць пакуты. Што працей і бяспечней — сядзець ціхенька пад венікам і не высоўвацца. Інакш будзе толькі горш.

Аднак гэта — ілюзія. Горш, канешне, сапраўды можа быць. Але толькі ў тым выпадку, калі грамадства ў XXI стагоддзі ў самым цэнтры Еўропы дапусціць такое дзікунства. Падпарадкуецца і прыме такі расклад, асудзіць на шматгадовае рабства саміх сябе і сваіх дзяцей на ўласнай зямлі.

Пакуль у нас яшчэ ёсць шанец гэтага пазбегнуць. Нас па-ранейшаму большасць, наша салідарнасць не слабее, на шчасце, прага перамен — таксама. З намі — увесь цывілізаваны свет.

Што ж нам рабіць? Адказ адначасова просты і складаны: не падпадаць пад уздзеянне запалохванняў. Гэта вымагае вялікіх, найперш маральных, высілкаў. Трэба ўмець быць гнуткімі, як тая галінка пад снегам, і часам паддавацца ў дробным, каб перамагчы ў вялікім. Узгадайце словы рымскага гісторыка Публія Карнэлія Тацыта: «Чым бліжэй дзяржава да падзення, тым больш шматлікія ў яе законы». Але можна выдаць колькі заўгодна законаў, дэкрэтаў і загадаў, ды толькі нельга перапісаць законы эканомікі — а яны спраўна функцыянуюць паводле сваёй логікі, не абяцаючы рэжыму нічога добрага.

Таму цяпер, калі паглядзець на падзеі ў Беларусі з пункту гледжання гістарычнага працэсу, мы на слушным шляху. Гэта абсалютна непазбежна: прыйдзе час — і сістэма пажарэ сама сябе. Гэта адбываецца ўжо — на жаль, не так хутка, як хацелася б, і нашмат марудней, чым людзей кідаюць за краты. Але гэты працэс ідзе — і ён няспынны.

І цяпер ад беларусаў трэба, насамрэч, не так шмат. Першае, што мы мусім рабіць, — гэта захоўваць спагаду і салідарнасць, заставацца людзьмі, грамадствам, дзе «беларус беларусу — беларус». Ніякія рэпрэсіі не ў стане забараніць чалавеку быць чалавекам.

А яшчэ — давайце, нарэшце, у поўны голас заявім, што мы — беларусы і мы маем славутую гісторыю, адметную мову, старадаўнія традыцыі і дзяржаўнасць. Папярэджваючы тых, хто скажа, маўляў, цяпер не час, спачатку трэба вырашыць палітычны крызіс. Акурат цяпер — самы час, каб пачаць размаўляць па-беларуску (дарэчы, таксама адзін са спосабаў паказаць, што нас шмат) і культываваць нацыянальныя каштоўнасці. У свой час для нашых балтыйскіх суседзяў гэта стала галоўным чыннікам у здабыцці незалежнасці. Менавіта нацыянальны складнік, які нават падчас савецкай акупацыі ў літоўцаў, латышоў, палякаў, украінцаў заставаўся вельмі моцным, дапамог ім у даволі хуткі тэрмін адваяваць сваю свабоду.

Азірніцеся на колькі месяцаў назад і паглядзіце, як шмат мы ўжо зрабілі. А колькі яшчэ можам зрабіць! Калі вам падаецца, што сітуацыя безвыходная, узгадайце псіхолага Віктара Франкла, які выжыў у Асвенцыме і страціў сям'ю. Ён напісаў: «Той, хто ведае, "навошта" яму жыць, будзе здольны вытрымаць амаль любое "як"». Пагадзіцеся: будаваць жыццё для сябе і сваіх дзяцей у вольнай і прыгожай Беларусі — толькі адзін з магчымых і, безумоўна, вартых сэнсаў для таго, каб выжыць і перамагчы.

Аднойчы павее ветрык, прыгрэе сонейка — і снег на галінцы растае. І тады яна выпрастаецца і пацягнецца свежымі парасткамі да неба.

# «Важны дэкрэт», «змова» і суды

**Два тыдні вы былі без «Новага Часу», таму сцісла распавядзем пра галоўныя падзеі, што адбыліся за гэты час.**

За ўдзел у Курапацкай варце 23 красавіка Ганне Шапуцька прысудзілі 15 сутак арышту, Кірылу Лойку — 5, Змітру Дашкевічу — 20. Дашкевіч на судзе распавёў пра «спецыяльныя» ўмовы ў ІЧУ Мінскага раёна для «палітычных», якія назваў генацыдам.

Раней Лукашэнка анансаваў падпісанне важнага дэкрэта. Аказалася, ён плануе падпісаць дэкрэт аб пераходзе прэзідэнцкіх паўнамоцтваў да Рады бяспекі ў выпадку, калі ў краіне паўстане такая неабходнасць.

Нягледзячы на адсутнасць акцый з нагоды 35-й гадавіны аварыі на Чарнобыльскай АЭС, вечарам 26 красавіка ў Мінску затрымалі каля 20 чалавек.

Праваабаронцы прызналі палітвязнямі Вольгу Маёраву і Дзяніса Урада. Маёраву затрымалі ў студзені. Яна абвінавачваецца па артыкуле 289 КК («Акт тэрарызму»), меркавана, адміністравала сацыяльныя сеткі Мікалая Аўтуховіча, таксама абвінавачанага ў тэрарызме. Капітан Дзяніс Урад быў затрыманы ў сакавіку і абвінавачаны ў дзяржаўнай здрадзе. Ён, знаходзячыся на дзяжурстве ў Генштабе, сфатаграфаваў сакрэтны ліст ад кіраўніка МУС міністру абароны аб уцягванні вайскоўцаў Узброеных Сіл у «дзейнасць па падтрыманні правапарадку» і накіраваў копію тэлеграм-каналу.

У Брэсце вынеслі прысуд яшчэ 14 фігурантам «пінскай справы». Усіх іх прызналі вінаватымі ва ўдзеле ў масавых беспарадках (ч. 2 арт. 293 Крымінальнага кодэкса) і пакаралі тэрмінамі ад 5,5 да 6,5 гадоў калоніі.

Мінгарсуд пакінуў у сіле прысуд валанцёру штаба Бабарыкі Лявону Халатрану. Халатрана вінавацілі паводле ч. 1 арт. 342 Крымінальнага кодэкса: нібыта ён перакрываў дарогі ў раёне вуліц Куйбышава — Машэрава, перашкаджаў транспарту, выкрыкваў лозунгі і пляскаў у далоні ў ноч з 9 на 10 жніўня. Лявон сваёй віны не прызнаў. Суд пакараў мужчыну двума гадамі «хіміі».

У КДБ назвалі прозвішчы 9 чалавек, якія праходзяць у якасці абвінавачаных па крымінальнай справе так званага «дзяржаўнага перавароту» па ч. 1 арт. 357 КК («Змова або іншыя дзеянні, здзейсненыя з мэтай захопу дзяржаўнай улады»). Гэта Аляксандр Фядута, Юрась Зянковіч, Рыгор Кастусёў, Вольга Галубовіч, Дзмітрый Шчыгельскі, Аляксандр Перапечка, Павел Кулажанка, Віталь Макаранка і Ігар Макар. Чацвёра знаходзяцца ў СІЗА КДБ, астатніх збіраюцца экстрадаваць з-за мяжы.

Пад некралогам міліцыянту трое пакінулі «абразлівыя каментары». Аператыўнікі выявілі іх аўтараў: 37-гадовага мінчука, 63-гадовую жанчыну са Смаргоні і 49-гадовага жыхара Віцебска. Следчыя прызналі каментатараў падазраванымі па крымінальнай справе за «публічную абразу прадстаўніка ўлады». Іх затрымалі. Хаця памерлы ніякіх заяваў у суд не падаваў.

Асуджаных да смяротнага пакарання братоў Косцевых памілавалі. Да гэтага праваабаронцам было вядома толькі пра адзін выпадак памілавання асуджанага да смяротнага пакарання за ўсю гісторыю незалежнай Беларусі. Нагадаем, 10 студзеня 2020 года ў Чэрыкаве былі вынесеныя адразу два смяротныя прысуды ў дачыненні да братоў, 19-гадовага Станіслава і 21-гадовага Іллі Косцевых. Іх абвінавацілі ў забойстве настаўніцы, якая жыла па суседстве, і падпале яе дома. 22 траўня 2020 года Вярхоўны Суд не задаволіў апеляцыйную скаргу Косцевых, прысуд пакінулі ў сіле. Пасля гэтага родныя звярнуліся з прашэннем аб памілаванні да беларускага кіраўніка.

З 1 траўня 2021-га па 1 студзеня 2023 года беларусы, якія жадаюць выехаць з краіны праз пункты пропуску ў Гродзенскай вобласці («Каменны Лог», «Брузгі», «Бераставіца»), павінны заплаціць. Адна машына — адна базавая, незалежна ад колькасці людзей у ёй. Сабраныя грошы, па словах дэпутатаў, пойдуць на барацьбу з каронавірусам. Збор будзе спаганяцца з усіх аўтамабіляў, якія належаць фізічным асобам і арганізацыям, і максімальная маса якіх не перавышае 5 тон. Вызваленымі ад аплаты за выезд будуць кіроўцы, якія едуць на пахаванне блізкіх сваякоў, ветэраны ВАВ, інваліды I і II групы і тыя, хто іх суправаджае, «чарнобыльцы» і некаторыя іншыя. Усе яны павінны ехаць з пацвярджаючымі дакументамі.

Шасцёра беларускіх праваабаронцаў намінаваныя на міжнародную прэмію «Front Line Defenders». Гэта сябры пазбаўленага рэгістрацыі праваабарончага цэнтра «Вясна» Марфа Рабкова, Леанід Судаленка, Андрэй Чапюк і Таццяна Ласіца, а таксама дырэктар і юрыст «Офіса па правах людзей з інваліднасцю» Сяргей Драздоўскі і Алег Граблеўскі. Усе яны прызнаныя палітвязнямі. Прэмія была заснаваная ў 2005 годзе ў знак прызнання працы праваабаронцаў, якія ўносяць уклад у прасоўванне і абарону правоў чалавека, падвяргаючы сябе асабістай рызыцы.

Унутраны дзяржаўны доўг Беларусі пабіў рэкорд усіх часоў. Па стане на 1 красавіка 2021 года ўнутраны дзярждоўг склаў 11,763 мільярда рублёў — і гэта максімальнае значэнне за перыяд публікацыі даных па гэтым паказчыку. Папярэдні рэкорд па ўнутраным дзярждоўгу пратрымаўся ўсяго месяц.

# Ініцыятыўная група кампаніі «Дзеці-328» сустрэлася з прадстаўніком ЮНІСЕФ

НЧ

**Напрыканцы красавіка ініцыятыўная група маці кампаніі «Дзеці-328» сустрэлася на асабістым прыёме з прадстаўніком ЮНІСЕФ. На сустрэчы прысутнічалі: прадстаўнік у Рэспубліцы Беларусь Таня Радачай, намеснік прадстаўніка ЮНІСЕФ у Рэспубліцы Беларусь Габрыэла Івона Акімава, старшы каардынатар Дзмітрый Шылін, спецыяліст па планаванні Павел Холад.**

«Дзеці-328» — кампанія, прысвечаная непаўналетнім асуджаным за нязначныя негвалтоўныя правапарушэнні, звязаныя з наркотыкамі. Пераважна, гэта дзеці, што трапляюць у сеткі дасведчаных нарказлачынцаў, якія прапануюць у інтэрнэце «легальную» працу з высокім прыбыткам. Асобы, якія стаяць за такім злачынным бізнесам, як правіла, застаюцца неўстаноўленыя следствам. А падлеткі аказваюцца адзінымі, каго праваахоўнікі здольныя ўстанавіць. І яны атрымліваюць велізарныя тэрміны пакарання.

У ходзе гутаркі, адзначае children328.blogspot.com, былі агучаныя наступныя праблемы:

— Занепакоенасць, што зноў вырасла колькасць злачынстваў па арт. 328 (са зводкі МУС: усяго са студзеня па сакавік 2021 года выяўлена 1063 нарказлачынствы. З іх 625 звязаныя са збытам псіхаактыўных рэчываў).

— Непаўналетнія паводле ч. 4 арт. 328 асуджаныя да тэрмінаў 10–12 гадоў (злачынствы не адпавядаюць тым тэрмінам, якія даюць непаўналетнім. Дзеці, якія трапілі пад уплыў наркадзялкоў праз глабальную сетку інтэрнэт, не павінны ў адзіночку несці павышаную адказнасць за міжнародныя злачынныя групы).

— Адсутнасць у РБ ювенальнай юстыцыі (ювенальная юстыцыя ўяўляе сабой сістэму органаў, якая ажыццяўляе правасуддзе па справах аб злачынствах сярод непаўналетніх, якія ўчынілі правапарушэнні, прафілактыку дзіцячай злачыннасці і абарону правоў дзяцей. Дадзеная сістэма прытрымліваецца мяккага правасуддзя над падлеткамі і адмаўляе такі від пакарання, як пазбаўленне волі. Вялікую ўвагу яна надае грамадска карыснай працы, уцягванню непаўналетніх у бясплатныя секцыі, клубы, гурткі).

— Сіроты (нягледзячы на шматлікія льготы і гарантыі па сацыяльнай абароне дзяцей-сірот, прадугледжаныя заканадаўствам Рэспублікі Беларусь, як толькі сірата трапляе ў катэгорыю тых, хто спатыкнуўся, пераступіў закон, усе гэтыя правы аўтаматычна перастаюць дзейнічаць, дзіця застаецца без падтрымкі, без сродкаў існавання, без жылля, ды яшчэ і з велізарным абавязкам сплаціць «судовыя выдаткі»).

— Юрыдычная дапамога (адвакаты не выконваюць свае функцыі па забеспячэнні прававой абароны непаўналетніх, бяруць велізарныя ганарары).

У канцы сустрэчы ўдзельнікі падзякавалі адно аднаму за канструктыўны дыялог. Прыйшлі да ўзаемнай згоды, што праца павінна весціся разам, неабходна абменьвацца інфармацыяй. ЮНІСЕФ у Беларусі працуе для таго, каб усе дзеці былі абароненыя ад любых формаў гвалту і жорсткага абыходжання і атрымлівалі неабходную дапамогу. Група маці кампаніі «Дзеці-328» спадзяецца, што супрацоўніцтва з ЮНІСЕФ прынясе свае вынікі.

ЛІСТЫ ЗА КРАТЫ

# «Ведаю не з сёмых пятак, што такое быць затрыманым праз нішто»

**Дзесяць гадоў таму гурт «Кашлаты Вох» выпусціў кліп на трэк «13» у тэхніцы stop-motion, а таксама выступіў са сваім сэтам на фэсце-конкурсе кліпаў у гэтай тэхніцы. У гурце тады граў Пётр Слуцкі, які цяпер ні за што ўжо чатыры месяцы сядзіць у турме. Удзельнік гурта Вячка Красулін даслаў у рэдакцыю НЧ ліст да Пятра.**



**Пётр Аляксандравіч Слуцкі — аператар, супрацоўнік «Прэс-клуба». Быў затрыманы 22 снежня. Адрас для лістоў: СІЗА-1. 220030, г. Мінск, вул. Валадарскага, 2.**

Прывітанне, Сябар!

Думаў, як пачаць табе пісаць. Нарэшце нешта грукнула па галаве, пайшлі думкі, пацяклі струменьчыкі.

Здзівіўся, што і цябе, і тваю маці, і тваіх калег во так проста ўзялі і зачынілі. Блін. Ведаю не з сёмых пятак, што такое быць затрыманым праз нішто і потым мець нейкі дзіўны вольны час, каб мець магчымасць усвядоміць, што адбываецца (пры тым, што не даюць усведамляць).

Мы з табой збіраліся неяк сустрэцца пасля таго, як пабачыліся на выхадзе з агульнай рэпетыцыйнай базы. Я быў вельмі рады цябе пабачыць! Ты, як мне падалося, таксама! Дамовіліся пабачыцца як-небудзь, паразмаўляць за жыццё...

Ы! Памятаеш, як мы пазнаёміліся? Калі я шукаў гітарыста ў гурт, і Улад табе ўсё паказаў, а я нават зняў на відэа, каб дакладна зафіксаваць. І глядзі — праз месяц мы ўжо гралі ў Парку Чалюскінцаў, гэта быў твой першы канцэрт! У мяне захаваліся запісы, потым прадэманструю!

Тое быў 2010 год, а потым мы канкрэтна заняліся запісам альбому. Гэта быў вельмі цёплы і душэўны момант супрацы з табой. Выбачай за містэра Н., ён тады часам надакучваў і тупіў праз свой светапогляд. Але лупіў ён як трэба, з гэтым складана не пагадзіцца.

Калупаўшы тут архівы з «Osmos», мы тады ж запісалі трэкі «Васьміглазніца» і «Я бачыў». Ударныя, бас і дудкі. Гэта было тады, калі ў цябе зваліўся кейс і грыф адваліўся. Добра, што ты ўсё вярнуў на месца! Думаю цяпер дарабіць тыя тэмы і дадаць бонусамі да «Пазаўчора».

Ух, а памятаеш, як ганялі на Басовішча–2011? Той год быў увогуле добра насычаны на падзеі! Фота ля прыбіральняў — маё любімае дагэтуль!

Ох, часам у мяне запытваюць, чаму мы не выкарыстоўваем аранжыроўкі з «Цуд-зуд», а я не бачу, з кім, акрамя цябе, іх выкарыстоўваць.

І яшчэ калупаўся ў архівах, знайшоў папку «Show must go on», пачку, якую ты сам запісаў у 2014 годзе. Ты не супраць, калі я на яе голас запішу? Вафффкі ў мяне ёсць (рэверанс да Сцьюі).

Дарэчы, менавіта ты мяне і падсадзіў на FG!

Як у цябе стане больш вольнага часу, пабачымся і паразмаўляем пра ўсякія цікавыя рэчы!

Дзякуй табе за тое, што ты быў заўсёды самым адэкватным з Вохаў, але тое, што «13» не сыгралі з-за струны — я памятаю!

Я з табой, КВ з табой, мы ўсе — з табой!

Якія ў цябе задумкі пра музыку зараз?

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Зона абсурду

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Краіна адзначыла Першамай, сумешчаны з праваслаўным Вялікаднём, збольшага, ударнай працай. На поўдні ўжо садзілі бульбу. Але некаму ўсё ж карцела даказаць сабе і астатнім, што «вораг не пройдзе».**



Фота Дзмітрыя Дзмітрыева

Афіцыйныя прафсаюзы звезлі да амерыканскай амбасады «арганізаваныя групы працоўных», каб выказаць сваё «фэ» ўвядзенню санкцый. У мітынгу, як планавалася, павінны былі ўзяць удзел каля 1000 чалавек, перадаюць «варожыя» тэлеграм-каналы. Аднак прыйшло каля сотні.

Што ў гэтай сітуацыі ўражвае — дык гэта тое, што беларуская прапаганда наўпрост загразла ў часах СССР. Для іх не паўстала нічога новага з тых часоў, калі адна шостая частка свету змагалася з «заходнім імперыялізмам» шляхам «мабілізацыі працоўных». Яны проста не заўважаюць, што свет змяніўся, і змяніўся незваротна.

Таму і аддачы ад такога «пратэсту» няма. А дзе ж яна будзе, калі спадар кіраўнік ФПБ Міхаіл Арда перадаў петыцыю працоўных не ў амбасаду ЗША, а беларускаму міліцыянту, што сядзіць у будачцы ля будынка амбасады. Смешна, што пратэст Арды атрымала Упраўленне па ахове дыпламатычных прадстаўніцтваў і консульскіх устаноў замежных дзяржаў МУС Беларусі.

Шчыра скажам, амерыканцы прызвычаіліся да таго, што па ўсім свеце ля іх амбасадаў розныя людзі патрабуюць дзіўнага. Добра яшчэ, што ў Беларусі мітынгі праходзяць без спальвання амерыканскіх сцягоў і закідвання амбасады камянямі. Так што супрацоўнікі амбасады ЗША могуць сабе спакойна працаваць, нават калі ФПБ сапраўды арганізуе пад іх сценамі мітынг хоць у 10 тысяч чалавек: Амерыка будзе толькі вітаць свабоду выказвання.

А вось улады аказаліся ў сітуацыі, калі (зноў і ў які ўжо раз) самі сябе адлупцавалі. Па-першае, паказалі сваю непісьменнасць у дыпламатычных стасунках да такой ступені, што нават не ведаюць, куды лісты аддаюцца. Па-другое, прадэманстравалі, што рэакцыя сусвету на беларускія падзеі для іх хваравітая. Па-трэцяе, пераканалі амерыканцаў, што іх санкцыі працуюць.

Ну і, канешне, зноў выявілі «падвойныя стандарты», у чым звычайна абвінавачваюць менавіта Захад. «Чарнобыльскі шлях» не дазволілі з-за каранавіруса, а праз пяць дзён сабралі сотню чалавек, нягледзячы на «заразу». Дарэчы, добрая спроба сапсаваць здароўе «ябацек». Ці афіцыйныя прафсаюзы потым выдадуць бясплатныя пуцёўкі ў санаторый тым, хто ў выніку гэтай акцыі перахварэе на ковід?

Не дзіўна, што 90% патэнцыйных удзельнікаў праўладнага мітынгу разбегліся. З уладай звязвацца ніхто не хоча. Аж да таго, што нават на афіцыйны конкурс прыгажосці «Міс Беларусь» да дзяўчат даводзілася выдаваць «разнарадкі». Менавіта такі ліст атрымалі ў раёнах Мінска ад Мінгарвыканкама. У ім сказана: «Для ўдзелу ў гарадскім этапе конкурсу "Міс Беларусь" неабходна накіраваць ад кожнага раёна Мінска па 5 (пяць) дзяўчат».

Верагодна, улады напалохаліся тым, што ў Наваполацку і Брэсце на кастынг прыйшло ўсяго па адной дзяўчыне. Гэта не дзіўна не толькі пасля выкрыцця факту, як дзяўчыны-пераможцы конкурсаў прыгажосці трапляюць ва ўрадавыя лазні. Проста ўлада стала настолькі «таксічнай», што запэцкацца стасункамі з ёю агідна не толькі на дзелавым, але і на асабістым, чалавечым узроўні.

Пры гэтым відавочна, што там, ва ўладзе, не ведаюць, што рабіць. Што рабіць не толькі са сваёй «таксічнасцю», але і ўвогуле. Таму яны занятыя выключна тым, што «мітусяцца пад кліентам».

Напрыклад, два месяцы таму ў Беларусі, каб прытармазіць інфляцыю, прынялі цвёрдае рашэнне — цэны больш чым на сто найменняў тавараў былі замарожаныя. Рашэнне закранула 57 найменняў прадуктаў харчавання, 5 найменняў сродкаў гігіены і гаспадарчых тавараў, а таксама 50 найменняў лекавых прэпаратаў айчыннай вытворчасці або расфасоўкі. З сакавіка павышаць цэны на такія тавары дазваляецца не больш чым на 0,2% у месяц. Аднак на мінулым тыдні намеснік міністра антыманапольнага рэгулявання і гандлю Андрэй Картун анансаваў верагодную адмену пастановы № 100, якой гэтае замарожванне было ўведзена. «Трэба пераходзіць да больш ліберальных захадаў. Цяпер ва ўрадзе абмяркоўваецца магчымасць адмены пастановы», — сказаў Картун.

Адразу ўзгадваецца анекдот пра тое, як равін параіў незадаволенаму жыццём прыхаджаніну прывесці ў дом казу. Каза зрабіла жыццё чалавека ўвогуле невыносным, і тады служка культу сказаў: «Пазбаўся ад казы!» І як толькі казу выштурхнулі за парог, жыццё стала значна лепшым. Так і тут: спачатку ўлады «завялі казу», замарозіўшы цэны: інфляцыя ад гэтага не зменшылася, цэны расці не перасталі, затое з'явіўся дэфіцыт некаторых тавараў. Цяпер яны хочуць «пазбавіцца ад казы» — і называюць гэта «лібералізацыяй».

У палітыцы — не менш цікавыя рэчы. Міністэрства юстыцыі адмовіла ў рэгістрацыі прарасійскай партыі «Саюз». Не ведаю, на што спадзяваліся «прарасійцы» ў краіне, дзе за 20 гадоў не было зарэгістравана ніводнай палітычнай партыі, але тым не менш. Бачна, што разлік на «канстытуцыйную рэформу», пра якую шмат казаў кіраўнік МЗС Расіі Сяргей Лаўроў, і вольнасць дзеяння прарасійскіх партый у Беларусі не спрацавалі. Расія спадзявалася лабіраваць свае інтарэсы ў Беларусі праз лаяльныя ёй партыі і арганізацыі. Разлік палягаў у тым, што, паводле новай Канстытуцыі, улада прэзідэнта зменшыцца, а паўнамоцтвы парламенту павялічацца, прарасійскія партыі, падтрыманыя крамлёўскімі медыя, могуць атрымаць шмат месцаў у парламенце, і, адпаведна праводзіць сваю палітыку.

Аднак Лукашэнка яскрава паказаў: уладай ён дзяліцца не мае намеру. Больш за тое, канстытуцыйная камісія, якая, нібыта, выпрацоўвае тую самую новую Канстытуцыю, заявіла, што ў Сінявокай немэтазгодна мяняць форму кіравання з прэзідэнцкай на іншую.

Такім чынам, Лукашэнка, як звычайна, скарыстаў Пуціна ў жніўні-верасні мінулага года, «развёў яго на грошы» (крэдыт у 1,5 мільярда долараў, з якіх траціну мы яшчэ і не атрымалі) і падтрымку (памятаеце, Пуцін нават стварыў «рэзерв Росгвардыі» ля беларускай мяжы на выпадак, калі пратэстоўцы ў Беларусі пяройдуць нейкія «чырвоныя рысы»?), а цяпер, па сваёй завядзёнцы, «кінуў» саюзніка.

Чакаем, чым адкажа Пуцін.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ



## Сяргей Зікрацкі

**Пазбаўлены ліцэнзіі адвакат Сяргей Зікрацкі пакінуў Беларусь.**

Паводле яго слоў, ён вымушаны быў пакінуць Беларусь, таму што яго пазбавілі любімай прафесіі. Зікрацкі ўпэўнены, што можа быць карысны сваёй краіне цяпер толькі на адлегласці.

«Я люблю Беларусь, і разумею, што тое зло, якое адбываецца сёння ў маёй краіне, робяць канкрэтныя людзі. І гэтыя людзі не маюць нічога агульнага з Беларуссю. Таму я не магу злавацца на Беларусь, а маю намер працягваць рабіць усё магчымае, каб змяніць сітуацыю ў Беларусі. На жаль, у бягучых рэаліях я не магу гэта рабіць у Мінску. З 1 траўня маім часовым домам стане Вільня. Вельмі спадзяюся хутка вярнуцца ў свабодную Беларусь», — напісаў ён.

Сяргей Зікрацкі 24 сакавіка, як, зрэшты, і дзясяткі іншых адвакатаў, не прайшоў пазачарговую атэстацыю ў Мінюсце і пазбавіўся ліцэнзіі. Ён вядомы тым, што абараняў у судах журналістаў і шчыльна супрацоўнічаў з Беларускай асацыяцыяй журналістаў.



## Дзяніс Івашын

**Для гродзенскага журналіста Дзяніса Івашына не прынялі перадачу. Адміністрацыя турмы паведаміла, што ён другі дзень знаходзіцца ў карцары.**

Гэта азначае, што за ўвесь тэрмін, пакуль Івашын будзе ў гэтым больш строгім месцы знаходжання ў гродзенскай турме, яму нельга будзе перадаваць перадачы і ён не зможа сустрэцца з адвакатам. Па словах жонкі, на Вялікдзень якраз мінуў 50-ты дзень знаходжання Дзяніса за кратамі. І ёй вельмі шкада, што Дзяніс не зможа адзначыць такое свята, як Вялікдзень, няхай сабе і турме, куды яна збіралася перадаць розныя падарункі.

Івашына затрымалі 12 сакавіка. Да позняй ночы ў кватэры журналіста сілавікі праводзілі ператрус. Таксама ў той вечар вобшук зрабілі дома ў маці Дзяніса, а 15 сакавіка прыйшлі з вобшукам да яго 95-гадовай бабулі.

Дзяніс Івашын займаецца журналісцкімі расследаваннямі, супрацоўнічае з «Новым Часам». Апошні яго матэрыял для НЧ быў пра тое, як былыя ўкраінскія «беркутаўцы» паспяхова ўладкаваліся на службу ў беларускую міліцыю. Сваякі і калегі мяркуюць, што затрыманне Івашына звязанае менавіта з гэтым. Журналісту прад'яўлена абвінавачанне па 365-м крымінальным артыкуле — «Умяшанне ў дзейнасць супрацоўнікаў органаў унутраных спраў».



## Віталь Макаранка

**Сябра Сойму Партыі БНФ з Магілёва дзіўным чынам аказаўся фігурантам справы аб «замаху на Лукашэнку». Ён з'ехаў ва Украіну і цяпер спрабуе атрымаць там палітычны прытулак.**

Сам Макаранка кажа, што пра датычнасць да справы аб «замаху» ён даведаўся з прапагандысцкіх фільмаў па БТ. «Мая выява была ў прапагандысцкіх фільмах: гэта былі запісы размовы ў зуме, там я прадстаўляўся. На тыя размовы я трапіў невыпадкова — у тым плане, што мяне туды запрасілі. Але падчас размовы не было ніякіх момантаў, якія можна было б звязаць з замахам ці з нейкім пераваротам. Першая размова ўвогуле насіла характар паліталагічнай лекцыі», — адзначыў Макаранка.

Па яго словах, ён знаходзіўся ў Беларусі да 17 красавіка. Першых фігурантаў справы арыштавалі 12 красавіка. «Калі я такі небяспечны змоўца, саўдзельнік дзяржаўнага перавароту, чаму за 5 дзён мяне нават на допыт не выклікалі? Я ж нікуды не хаваўся, сядзеў дома ў Магілёве, займаўся звычайнымі справамі. Да Кастусёва ў Цехцін даехалі, а да мяне ў Магілёў — не?» — задаецца пытаннем Макаранка.

«Для мяне ўвогуле загадка, што я ці Кастусёў маглі зрабіць для замаху на Лукашэнку. Зброі ў нас няма, мы людзі звычайнага прыбытку, выхадаў на сілавыя структуры няма, нейкіх глыбінных сувязяў з чыноўніцтвам няма, сотняў тысяч баевікоў няма. Я проста бачу татальную дэкваліфікацыю генпракуратуры, КДБ і гэтак далей», — заявіў ён.

Тым не менш, у КДБ заявілі, што будуць дамагацца яго экстрадыцыі.

а Азбука паліталогіі

# Прыгоды 35-га артыкула Канстытуцыі ў Беларусі



Сяргей НІКАЛЮК

**Чалавек, які не валодае глыбокімі ведамі, падганяе сваю «карціну свету» пад любую свежую інфармацыю.**

Асаблівым попытам карыстаецца разнастайная алармісцкая інфармацыя, здольная стаць аналагам хрушча, які ўдарыў Нязнайку па патыліцы. Нагадаю, у карантышак з Кветкавага горада гэта падзея ледзь не спарадзіла ўсеагульную паніку:

«— Браткі, ратуйся! Кавалак ляціць!

— Які кавалак? — пытаюцца Нязнайку.

— Кавалак, браткі! Ад сонца адарваўся кавалак. Хутка пляснецца — і ўсім будзе канец. Ведаеце, якое Сонца? Яно большае за ўсю нашу Зямлю!»





## Цікавая дынаміка

Але годзе настальгаваць па басаногім дзяцінстве. Прапаную са свету карантышак вярнуцца ў беларускую рэальнасць з дапамогай 35-га артыкула Канстытуцыі: «Свабода сходаў, мітынгаў, вулічных шэсцяў, дэманстрацый і пікетавання, якія не парушаюць правапарадак і правы іншых грамадзян Рэспублікі Беларусь, гарантуюцца дзяржавай. Парадак правядзення ўказаных мерапрыемстваў вызначаецца законам».

Гарантуюцца ДЗЯР-ЖА-ВАЙ. Гэта для тых, хто з першага разу не зразумеў. Сярод чытачоў НЧ такіх, спадзяюся, адзінкі. Таму няма сэнсу тлумачыць, што ў кожнага грамадзяніна, не схільнага біць вітрыны, не павінна паўстаць праблем з рэалізацыяй жадання сабрацца і памітынгаваць. Было б жаданне.

На жаль, у сям'і не без вырадка, пра што сведчыць адна разбітая вітрына мінулым летам у Мінску. Але выключэнні на тое і існуюць, каб пацвярджаць агульныя правілы.

Мітынгі прынята падзяляць на законныя і незаконныя, санкцыянаваныя і несанкцыянаваныя. Гэта ў тэорыі. Што тычыцца практыкі, то наяўнасць артыкула 35-га ставіць крыж на арганізацыі незаконных і несанкцыянаваных мітынгаў у Беларусі. Хочаце памітынгаваць ці знемагаеце ад жадання пастаяць у пікеце? Няма праблем. Такога кшталту жаданні ў Рэспубліцы Беларусь гарантуюцца ДЗЯР-ЖА-ВАЙ! Мітынгуй! Пікетуй!

Але вось парадокс. Насуперак дзяржаўным гарантыям, колькасць незаконных і несанкцыянаваных мітынгаў у краіне расце. Гэта сцвярджэнне лёгка пацвердзіць з дапамогай пошукавіка газеты «СБ. Беларусь сегодня» (глядзі табліцу).

Цікавая дынаміка, пагадзіцеся. За перыяд з 2001 па 2019 гады сярэднегадавая колькасць артыкулаў, якія змяшчаюць шуканыя фразеалагізмы, не дацягвала і да трох. «Норма» была перакрытая больш чым у два разы ў першай палове 2020 года, у другой палове — нібы з ланцуга сарвалася... За апошнюю палову 2020-га несанкцыянаваных мітынгаў здарылася ў два разы больш, чым за папярэднія два дзесяцігоддзі! І гэта ў год, які прайшоў пад знакам малой радзімы!

Чым растлумачыць масавае нежаданне беларусаў скарыстацца гарантыямі дзяржавы? Зразумелага адказу на гэтае пытанне, калі абмежавацца ўнутранымі прычынамі, нікому яшчэ сфармуляваць не атрымалася. Аднак з пошукам знешніх прычын праблем не ўзнікае. ЛЯЛЬ-КА-ВО-ДЫ! ЛЯЛЬ-КА-ВО-ДЫ! Уся справа ў заходніх ЛЯЛЬ-КА-ВО-ДАХ, якія асвоілі методычку амерыканскага ідэолага «каляровых рэвалюцый» Джына Шарпа «198 метадаў негвалтоўных дзеянняў».

## Лепш позна, чым ніколі

Шарп да беларускага гарачага жніўня не дажыў (памёр у 2018 годзе ва ўзросце 90 гадоў). Шарп памёр, але справа яго жыве — і «каляровыя рэвалюцыі» працягваюць квітнець. У поўнай адпаведнасці з прыказкай «пасееш вецер, пажнеш буру», негвалтоўныя дзеянні ўсё часцей трансфармуюцца ў гвалтоўныя. Гісторыя са 150 пазадарожнікамі і буйнакалібернымі кулямётамі, агучаная прафесарам-патрыётам Станіславам Князевым, — гэта далёка не першая ластаўка і далёка не апошняя. Чаго-чаго, а сапраўдных патрыётаў у нас хапае. Памыляецца той, хто мяркуе, што на ўсіх патрыётаў пазадарожнікаў у Беларусі не хопіць.

Што не задавальняе лялькаводаў? Нашы поспехі. Спіс поспехаў заслужана ўзначальвае поспех у барацьбе з эпідэміяй COVID-19. Ён такі маштабны, што Белстат з лета 2020 года перастаў публікаваць даныя па смяротнасці. Тройчы мае рацыю Белстат. Навошта ствараць чарговую нагоду для раздражненняў у «гейропе». Прыгадаем Марка Твэна: «Няма нічога больш раздражняльнага, чым добры прыклад».

«Мы самая інтэрнацыянальная краіна, і наш беларускі народ па сваёй ментальнасці самы добры і інтэрнацыянальны». Аўтару «Азбукі паліталогіі» да такога ўзроўню абагульненняў не падняцца. Гэтакі ўзровень чытаннем кніг не забяспечыць. Ён ідзе ад жыцця. Ён або ёсць, або яго няма.

Самы добры і самы інтэрнацыянальны народ добрымі прыкладамі раздражняць суседзяў не стане. Ён падбярэ негатыўныя прыклады, а пры адсутнасці такіх — будзе імітаваць іх наяўнасць. Чаго толькі не зробіш дзеля суседзяў! Суседзяў не выбіраюць! Яны — ад Бога!

Тут міжволі прыгадваецца анекдот пра прэтэндэнта на пасаду намесніка дырэктара ў буйной фірме:

«— Ахарактарызуйце сябе.

— Я тугадум, ні ў чым не разбіраюся, у мяне ўсё з рук валіцца...

— Дык навошта вы мне патрэбны?

— А ўяўляеце, як вы будзеце глядзецца на маім фоне!»

**Адрозніць дэструктыўную апазіцыю ад канструктыўнай нескладана: першая — у адрозненне ад другой — імкнецца ва ўладу. Другім улада і дарма не патрэбная. Другая корміцца не з крытыкі ўлады, а з апявання яе дасягненняў**

Кнігу «Захад Еўропы» нямецкі публіцыст Освальд Шпэнглер апублікаваў у 1918 годзе, але за стагоддзе яна не страціла сваёй актуальнасці. Каб у гэтым пераканацца, дастаткова паглядзець навіны на любым дзяржаўным тэлеканале. А тут яшчэ Euronews. Добра, што адключылі. Запознення рашэнне. Аднак лепш позна, чым ніколі.

## Згодна з законамі бюракратыі

Намаганні заходніх лялькаводаў пазбаўленыя гістарычнай перспектывы. Але разуменне гэтага не адмяняе пільнасці ў рэжыме «тут і цяпер». Абагульнены Захад усё псаваў, псуе і будзе працягваць псаваць. Такая яго прырода.

Дам слова генеральнаму сакратару АДКБ Станіславу Засю: «Супраць асобных нашых дзяржаў разгорнутая маштабная інфармацыйная кампанія па падрыве стабільнасці і стварэнні пажыўнага асяроддзя для ўзнікнення канфліктных сітуацый паміж уладнымі структурамі і дэструктыўнымі апазіцыйнымі групоўкамі, якія імкнуцца ва ўладу. Шырока прымяняюцца для змены палітычнага курсу ўдасканаленыя методыкі "каляровых рэвалюцый" і "гібрыдных войнаў"».

Абрэвіятура АДКБ, калі хто забыўся, расшыфроўваецца як «Арганізацыя Дамовы аб калектыўнай бяспецы». Абавязковай умовай прыёму ў арганізацыю з'яўляецца наяўнасць у краіне дэструктыўнай апазіцыі. Адрозніць дэструктыўную апазіцыю ад канструктыўнай нескладана: першая — у адрозненне ад другой — імкнецца ва ўладу. Другім улада і дарма не патрэбная. Другая корміцца не з крытыкі ўлады, а з апявання яе дасягненняў.

Падставы для хваласпеваў заўсёды пад рукой. «Прыгажосць у вачах таго, хто глядзіць». З Оскарам Уайльдам не паспрачаешся. Але тое самае можна сказаць і пра пачварнасць. Для ілюстрацыі апошняга сцвярджэння прывяду выказванне расійскага публіцыста Івана Давыдава: «Крыміналізацыя (прыраўноўванне да крымінальнага злачынства) канстытуцыйнага права збірацца мірна без зброі з'яўляецца найважнейшай прыкметай дыктатуры, якія адрознівае яе ад мяккага (канкурэнтнага) аўтарытарнага рэжыму».

Апошнія інавацыі ў пытаннях узмацнення жорсткасці адказнасці за грэбліве стаўленне да правоў, гарантаваных 35-м артыкулам Канстытуцыі, прынята тлумачыць рэакцыяй "дзяржавы для народа" на масавыя пратэсты лета-восені 2020 года. З такім тлумачэннем цяжка не пагадзіцца. Аднак ні адно тлумачэнне не можа быць поўным.

«Сілавы блок у краінах з размеркавальнай эканомікай, — тлумачыць фінансіст Андрэй Моўчан, — першапачаткова развіваецца для ажыццяўлення абароны ўлады. < ... > Па законах бюракратыі, ён досыць хутка пачынае рабіць сваю гульню — займаючы ўсё большую "долю рынку" рэсурсаў, прадаючы "наверх" сваю важнасць шляхам нагнятання абстаноўкі і забяспечваючы сабе "кармавую базу" шляхам пабудовы прасторы без закона — гэта значыць, развіваючы рэпрэсіўную сістэму. Спыніць гэты працэс вельмі цяжка, ды ўладзе гэта і не трэба; яе задача вырашаецца, а астатняе — выдаткі».

***

Пачварнасць, паклёп і іншы негатыў — у вачах таго, хто глядзіць. Вось ужо хутка год, як Моўчан жыве з сям'ёй у сталіцы краіны, прадстаўніца якой прагвае нам усё псаваць, прычым псаваць прафесійна.

**ДЫНАМІКА КОЛЬКАСЦІ АРТЫКУЛАЎ, ЯКІЯ ЗМЯШЧАЮЦЬ ФРАЗЕАЛАГІЗМЫ «НЕЗАКОННЫ МІТЫНГ» АБО «НЕСАНКЦЫЯНАВАНЫ МІТЫНГ» У ГАЗЕЦЕ «СБ. БЕЛАРУСЬ СЕГОДНЯ»**

| | 2001–2019 | I–VI 2020 | VII–XII 2020 | I–IV 2021 |
|---|---|---|---|---|
| Незаконны мітынг | 48 | 6 | 45 | 31 |
| Несанкцыянаваны мітынг | 44 | 7 | 96 | 35 |

Таццяна ЛІСІЧЭНКА

# У даўгу як у шаўку

**Сённяшняя палітычная сітуацыя наклала свой адбітак не толькі на недзяржаўныя медыя і грамадскую цікаўнасць. Не ў меншай ступені яна змяніла і інфармацыйны фон афіцыйных сродкаў інфармацыі і прапаганды. Напрыклад, у краіне ўжо не першы тыдзень ідзе пасяўная, але пра яе асабліва не чуваць.**



Фота Дзмітрыя Дзмітрыева

Пасяўная ў Беларусі заўсёды была «пыласмокам грошай». На яе выдаткоўвалася багата рэсурсаў. Гэтым разам улады толькі на студзень-травень заклалі на АПК 2 мільярды 275,5 мільёна рублёў. Апроч гэтага арганізацыі аграпрамысловага комплексу ў 2021 годзе атрымаюць без малога 450 мільёнаў рублёў для фінансавання закупкі паліва, мінеральных угнаенняў і сельгастэхнікі. Гэтыя сродкі перадаюцца з рэшткаў рэспубліканскага бюджэту, якія ўтварыліся на 1 студзеня, у выглядзе міжбюджэтных трансфертаў у кансалідаваныя бюджэты абласцей. Але варта адзначыць, што амаль 150 мільёнаў рублёў з «пазабюджэтнага фінансавання" будуць накіраваныя на пагашэнне бюджэтных крэдытаў, выдадзеных летась.

Такім чынам, на пасяўную ў нас сышоў амаль мільярд (!) долараў. А потым нам належыць сабраць тое, што мы пасадзім цяпер. Пры гэтым аддачы ад сельгасвытворчасці мы неяк не адчуваем.

Пазыковая пятля з новай сілай зацягваецца на шыі аграрыяў. 2021 год стартаваў з сумных максімумаў. Да 1 лютага буйныя і сярэднія прадпрыемствы сельскай гаспадаркі назапасілі сумарныя даўгі ў памеры 15,089 мільярда рублёў. Гэта значэнне стала новым рэкордам па памеры абавязацельстваў аграрыяў. Ранейшы рэкорд быў усталяваны 1 верасня 2020 года. Нягледзячы на дзяржпадтрымку ў выглядзе спісання або спрашчэння ўмоў па крэдытах і пазыках, сумарныя даўгі сельскай гаспадаркі раслі ўсю мінулую пяцігодку. У 2016 годзе сукупныя абавязацельствы аграрыяў павялічыліся на 4,7%, у 2017-м — на 3,3%, у 2018-м — на 6,8%, у 2019-м — на 9,2%, у 2020-м — на 5,4%.

У 2021 годзе рост запазычанасці працягнуўся: усяго за месяц сумарныя абавязацельствы вяскоўцаў выраслі на 1,2%.

Такая сітуацыя з абавязкамі моцна ўскладняе разлікі аграрыяў з астатнімі галінамі эканомікі і паміж сабой.

## Прамысловасць таксама ў мінусе

Не лепшая сітуацыя і ў прамысловасці. У апошнія гады, канешне, улады палягчаюць даўгавы цяжар казённых фабрык і заводаў рэгулярнымі «ўліваннямі» з бюджэтных і пазабюджэтных фондаў. Але абавязацельствы галоўных прадпрыемстваў краіны ўсё роўна застаюцца гіганцкімі.

Сумарныя даўгі буйных і сярэдніх кампаній Беларусі да 1 сакавіка дасягнулі 155,9 млрд. рублёў. Для параўнання: ВУП Беларусі за ўвесь 2020 год склаў 147 млрд. рублёў, а ВУП за 2021-ы, паводле прагнозу Мінэканомікі, чакаецца на ўзроўні 158,5 млрд. рублёў. Гэта проста гіганцкая лічба.

Самы вялікі даўгавы цяжар у грашовым выражэнні лёг на флагманаў Мінска — 42,7 млрд. рублёў. Сярод абласцей па памеры абавязацельстваў лідзіравала Мінская вобласць — 26,3 млрд. рублёў.

У астатніх абласцях запазычанасці размеркаваліся наступным чынам: Брэсцкая — 9,7 млрд. рублёў, Віцебская — 14 млрд. рублёў, Гомельская — 24,2 млрд. рублёў, Гродзенская — 25,6 млрд. рублёў, Магілёўская — 13,4 млрд. рублёў.

Цікава, што апошняе месца Брэстчыны па аб'ёме даўгоў адмысловцы тлумачыць меншымі маштабамі «комплекснай мадэрнізацыі» ў гэтым рэгіёне. Па факце гэта азначае, што ўсе мадэрнізацыйныя праекты ўлады не далі вялікага плёну і не прынеслі мадэрнізаваным прадпрыемствам нічога, апроч закрэдытаванасці.

Унутры прамысловасці былі відавочныя лідары па сумарных абавязацельствах: энергетыка — 19,7 млрд. рублёў, харчпрам — 11,5 млрд. рублёў, дрэваапрацоўка і «цэлюлознікі» — 10,6 млрд. рублёў. Памер доўгу ў энергетыцы ў 2021-м вырас у 3,2 раза, але больш чым утрая скараціліся даўгі ў будаўніцтве — да 6,4 млрд. рублёў. І гэта вельмі цікавы момант, таму што даўгі перацяклі з галіны ў галіну дзякуючы змене асноўнага віду дзейнасці некаторых буйных кампаній.

Напрыклад, пабудавалі мы Беларускую АЭС у Астраўцы. І калі раней яна ўлічвалася як «будаўніцтва», то цяпер яна ўлічваецца як «энергетыка». З гэтым і звязана скарачэнне абавязацельстваў у будаўнічай галіне, а рост — у энергетычнай. Але самі пазыкі ад гэтага нікуды не падзеліся.

У структуры сумарных даўгоў заўсёды ёсць «пратэрміноўка». Гэта даўгі, якія кампаніі не могуць вярнуць ва ўсталяваныя тэрміны. Да 1 сакавіка сумарная пратэрміноўка флагманаў Беларусі склала 10,780 млрд. рублёў, і з пачатку 2021 года яна паднялася на 5,7%.

## Ці зможа ўлада ўтрымаць беларускі рубель?

Зразумела, што з такімі лічбамі эканоміцы прыходзіцца вельмі кепска. Раней ратавалі два фактары. Першы — гэта назапашаная за мінулыя гады «падушка бяспекі» ў выглядзе прафіцытнага бюджэту. І другое — тое, што беларускія ўлады заўсёды фінансава падтрымлівала Расія. Пры гэтым даўгі нашай «саюзніцы» ўлады, у асноўным, не аддавалі, а рэфінансавалі. То-бок, бралі новыя пазыкі, каб пагасіць старыя — прынцып, на якім пабудаваная любая «фінансавая піраміда».

Напрыклад, у чэрвені 2020-га ўлады змаглі прадаць еўрабонды на агульную суму 1,25 мільярда USD. Праўда, ужо ў жніўні супастаўныя грошы Нацбанк выдаткаваў на падтрымку «зайчыка». Затым восенню праз Расію ўдалося працінуць пастанову аб выдзяленні 500 мільёнаў долараў Еўразійскім фондам стабілізацыі і развіцця. А пад самы Новы год у краіну паступіў першы транш дзяржкрэдыту ад урада Расіі.

**Эканамічная сітуацыя ў краіне нярадасная. Асноўныя крыніцы грошай перакрытыя — спыненнем інвестыцый і санкцыямі. Новых крэдытаў чакаць няма адкуль. А беларуская прамысловасць і сельская гаспадарка загразлі ў пазыковай багне**

У 2021 годзе Мінфін можа толькі марыць па такія вялікія сумы. У канцы лютага міністр фінансаў Селіверстаў паведаміў, што планы па выпуску новых еўрабондаў пакуль не актуальныя, на новыя расійскія крэдыты разлічваць, напэўна, не выпадае. Таму ў планах урада — выйсці на Маскоўскую біржу. Аднак аб'ёмы там, па традыцыі, вельмі невялікія — высокая верагоднасць, што ў Мінску не замахнуцца і на 300 мільёнаў долараў у эквіваленце, але гэта хоць нешта. І, магчыма, прыцягнуць нейкія кітайскія незвязаныя крэдыты, якія Кітай выдае вельмі неахвотна.

Што да ўласна золатавалютных рэзерваў Беларусі, то яны да 1 красавіка ўпалі да 6,940 мільярда долараў. У Нацбанку кажуць, што да канца года рэзервовыя актывы застануцца вышэй за 6 мільярдаў долараў. Але гэта ж фармальна значыць і тое, што НБРБ дапускае далейшае зніжэнне рэзерваў.

Акрамя ЗВР у вызначэнні МВФ ва ўладаў ёсць невялікі рэзерв за межамі афіцыйнай скарбонкі. На 1 красавіка памер гэтага рэзерву склаў 134,9 мільёна долараў у эквіваленце. Пры гэтым на 1 студзеня запас быў значна вышэйшы — 590,6 мільёна долараў. Грошы часткова перацяклі ў склад ЗВР, часткова былі выдаткаваныя ўладамі.

Каб ацаніць запас трываласці Нацбанка і Мінфіна, можна пагля дзець на запланаваныя выдаткі рэзерваў. Да 1 красавіка будучыя выдаткі па пагашэнні доўгу да месяца склалі 0,5 млрд долараў, да 3 месяцаў — 0,9 млрд долараў, да 1 года — 3,3 млрд долараў. Адпаведна, прыкладна на такія сумы могуць скараціцца ЗВР Беларусі, калі ўлады зусім не знойдуць грошай на рэфінансаванне валютных абавязанняў.

Калі чыноўнікі не будуць марнаваць золата і будуць выдаткоўваць толькі валютную частку рэзерваў, то праз 12 месяцаў ад яе застанецца рожкі ды ножкі — 0,3-0,4 млрд долараў. Таму для ўладаў важна знайсці грошы, дзе заўгодна. Аднак пытанне — хто ж нам дасць новыя крэдыты ва ўмовах, калі краіна абкладзеная санкцыямі?

## Плюс санкцыі

Мажліва, мы б маглі палепшыць стан эканомікі за кошт зробленых грошай. Найбольшыя сродкі ў беларускую казну прыносілі нафтаперапрацоўка і калійныя ўгнаенні. Аднак ад 19 красавіка Міністэрства фінансаў ЗША аднавіла санкцыі супраць дзевяці беларускіх дзяржпрадпрыемстваў. Санкцыі аднаўленыя ў дачыненні да наступных кампаній: «Беларускі нафтавы гандлёвы дом», «Белнафтахім» і яго амерыканскі філіял, «Белшына», «Гродна Азот», «Гродна Хімвалакно», «Лакафарба», «Нафтан» і «Полацк Шкловалакно». Пры гэтым дзейнічае так званы «ахоўны перыяд» на працягу 45 дзён — каб за гэты час усе партнёры гэтых прадпрыемстваў паспелі закрыць з імі здзелкі.

Эксперты не выключаюць, што наступным крокам Амерыка ўвядзе санкцыі ў дачыненні да «Беларуськалію». Справа ў тым, што да 2014 года «Беларуськалій» быў прадпрыемствам нафтахімічнага комплексу, на які распаўсюджваюцца санкцыі ЗША, але ў тым годзе быў выведзены са складу канцэрну «Белнафтахім», і пад сённяшнія санкцыі не трапіў. Але, імаверна, — не трапіў толькі «пакуль».

Санкцыі напоўніцу дзейнічаць яшчэ не пачалі, аднак беларускія ўлады іх ужо адчулі. Агенцтва «Reuters» паведаміла, што расійскія экспарцёры нафты могуць прыпыніць пастаўкі на беларускі НПЗ «Нафтан» пасля таго, як Злучаныя Штаты ўзмацнілі санкцыі ў дачыненні да Беларусі за парушэнні правоў чалавека. Прынамсі, «Раснафта» і «Сургутнафтагаз» паведамілі, што не плануюць пастаўляць нафту «Нафтану» ў траўні. Расіяне пакуль кансультуюцца з адвакатамі і вырашаюць, ці патрапяць яны пад «другасныя» санкцыі ЗША, калі звяжуцца з беларускімі перапрацоўшчыкамі.

І яшчэ не вызначана, як адаб'юцца санкцыі на набыцці прадуктаў беларускай нафтаперапрацоўкі.

Такім чынам, эканамічная сітуацыя ў краіне нярадасная. Асноўныя крыніцы грошай амаль перакрытыя — спыненнем інвестыцый і санкцыямі. Новых крэдытаў чакаць няма адкуль. А беларуская прамысловасць і сельская гаспадарка загразлі ў пазыковай багне.

Для таго, каб выратаваць прадпрыемствы, патрэбныя тры рэчы: грошы, грошы і яшчэ раз грошы. Аднак іх узяць няма адкуль — прынамсі, да таго, як не будзе развязаны палітычны крызіс у краіне. А пакуль ён не развязаны, інвестары і крэдытадаўцы ў краіну заходзіць і не збіраюцца.

# «Буду чакаць, калі нарэшце

Вікторыя ЧАПЛЕВА

**Вольга Анішчук — адна з тых беларускіх дзяўчат, у якой муж трапіў у зняволенне за выказванне пратэсту супраць дзеянняў уладаў. Нягледзячы на гэта дзяўчына не перастае паўтараць, што яе муж — герой, якога яна абавязкова дачакаецца на волі.**

### «У людзей расплюшчыліся вочы»

У сакавіку Арцёма Анішчука асудзілі за пашкоджанне машыны жонкі супрацоўніка міліцыі. Усяго па гэтай справе прайшлі пяць чалавек: кожнаму з іх далі розныя тэрміны зняволення. На судзе Арцём прызнаўся, што падрапаў машыну цвіком. За гэта суд даў Арцёму два гады калоніі агульнага рэжыму. Праваабарончая супольнасць не прызнала Арцёма палітычным зняволеным.

Воля пабралася шлюбам з Арцёмам чатыры гады таму. Акрамя мужа ў яе нікога з блізкіх у Мінску няма, бо да замужжа дзяўчына жыла ў Гомелі. Воля прызнаецца: да жнівеньскіх падзей яна не магла і падумаць, што ў Беларусі яе сям'я можа пацярпець. У першыя дні пасля выбараў, калі ішлі масавыя пратэсты, пасля працы яны з мужам шпацыравалі па Нямізе без аніякага страху. Тады ж упершыню сужэнцы пабачылі гвалт і збіццё беларусаў. Арцёму было складана прыняць новую рэальнасць. Яшчэ больш складана яму было сядзець склаўшы рукі.

— У жніўні ў людзей нарэшце расплюшчыліся вочы, — разважае Воля. — У мужа ж была стабільная праца ў службе бяспекі метрапалітэну. Падавалася б, чаму чалавеку спакойна не працаваць? Але ён не мог быць у гэтай сістэме, бо яго прымушалі штрафаваць супрацоўнікаў і прыдзірацца да іх без прычыны. Да свайго затрымання ён паспеў двойчы напісаць заяву аб звальненні.

### Першыя лісты з-за кратаў

Воля добра памятае той дзень, калі Арцём перастаў выходзіць на сувязь. У пошуках мужа яна тэлефанавала ў РУУСы і лякарні. Свякроў напісала заяву пра яго знікненне.

Калі Воля пасля працы вярнулася дадому, у кватэру сталі грукацца невядомыя, якія прадставіліся супрацоўнікамі ЖЭСу. Воля адчыняць дзверы пабаялася, аднак і «жэсаўцы» не сыходзілі. Пакуль Воля выклікала міліцыю, дзверы з таго боку сталі выбіваць сякерай.

— Я ў істэрыцы выбегла на балкон, крычала: «Дапамажыце!» — узгадвае Вольга. — Было жаданне наўпрост скочыць уніз. Аднак я супакоілася, адзела джынсы, швэдар — думала, што мяне забяруць у ізалятар. У выніку нашы дзверы ўсё ж выбілі. У кватэру ўварваліся тры чалавекі ў масках. Мне паказалі пасведчанне і пастанову на ператрус... Сказалі, што мой муж — падазраваны па крымінальнай справе. Адразу прывялі і панятых — мясцовых алкаголікаў.

Міліцыя на выклік прыехала — і адразу з'ехала, не паразмаўляўшы з Воляй. Пасля ёй патэлефанаваў следчы і сказаў, што яе муж знаходзіцца ў ізалятары, і трэба прывезці рэчы.

— Я зразумела, што проста так яго не адпусцяць, — кажа Воля. — А калі па тэлебачанні паказалі сюжэт з прызнаннем хлопцаў, дзе адзін з іх быў поўнасцю ў крыві, стала зразумела, што пабачу мужа я не хутка.

— Пра што пісалі ў першых лістах? — пытаю ў Волі. Тут яна не стрымліваецца і пачынае плакаць.

— Я прасіла... каб ён сябе не вініў. Я ведаю, што ён шмат перажывае праз тое, што я адна, без яго... Але я цалкам на яго баку. Ён хацеў выказаць свой пратэст такім чынам — у кожнага свае метады. Я разумею, што ён сам пайшоў супраць закону, але калі чалавек жыве ў гэтым беззаконні, то яго стан робіцца вельмі нестабільным. Я пісала, што сумую і буду чакаць. Пісала, што я ведаю, чаму ён гэта зрабіў, ды і іншым людзям гэта відавочна.


Арцём і Вольга

***— Ці шкадаваў ён сам з нагоды, што зрабіў?***

— Так, шкадаваў... Але шкадаваў з таго, што выказаў пратэст менавіта такім чынам. Ён не шкадуе, што не застаўся абыякавым да таго, што адбываецца вакол. Я памятаю яго стан, калі ён жыў у тым беззаконні, якое адбывалася ў краіне.

# «Я не з'язджаю, таму што

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**Ілля Міронаў — бадай, самы актыўны валанцёр Гомеля. Ён напісаў ужо больш за 1 100 лістоў палітзняволеным, разам з паплечнікамі наведвае суды, збірае прадуктовыя і рэчавыя перадачы для палітвязняў і іх блізкіх, аказвае інфармацыйную падтрымку.**



А яшчэ на хвалі, калі самыя актыўныя бягуць з Беларусі, Ілля, наадварот, вярнуўся на радзіму, каб быць карысным тут. Нягледзячы на ціск і пераслед, валанцёр не збіраецца з'язджаць з краіны і спыняць сваю дзейнасць.

### Стаў валанцёрам пасля таго, як трапіў у ІЧУ

У валанцёрскі рух — так званы «Гомельскі валанцёрскі дзвіж» — Ілля ўліўся восенню 2020 года.

— Гэта адбылося пасля таго, як я сам трое сутак прабыў у гомельскім ізалятары, — распавядае Ілля пра натхненне для валанцёрскай дзейнасці. — У 20-х днях жніўня мае сябры, якія працавалі на заводзе «Гомсельмаш», хацелі ўзяць удзел у забастоўцы. Але іх зачынілі ў цэхах. Я прыйшоў да завода, каб іх падтрымаць, але мяне затрымалі супрацоўнікі міліцыі. Гэта была пятніца, мая мама пра мяне нічога не ведала да панядзелка, калі адбыўся суд. Мне прызначылі штраф у 20 базавых і праз чорны ход выпусцілі.

Ілля з дзяцінства хадзіў на рок-канцэрты, а з часам стаў сам займацца іх арганізацыяй у Гомелі. Але апошнія тры гады ён працаваў у Расіі, за паўгода да вяртання ў Беларусь прыехаў у Польшчу.

Тым часам у Беларусі пачалася перадвыбарная кампанія, і па «Белсаце» Ілля ўбачыў, як затрымалі Сяргея Ціханоўскага. Гэта вельмі моцна яго абурыла, і з першым жа адкрыццём польска-беларускай мяжы напрыканцы чэрвеня ён прыехаў у Беларусь.

На радзіме Ілля планаваў адпачыць некалькі месяцаў, а потым зноў з'ехаць на заробкі. Але пачаліся масавыя выступленні супраць фальсіфікацыі выбараў, многія людзі аказаліся за кратамі, у тым ліку ў гомельскім СІЗА. Родныя не мелі ніякай інфармацыі пра іх.

Валанцёр распавядае, як 10 жніўня ён быў на дні народзінаў сябра, які ўвечары пайшоў выгульваць сабаку і аказаўся затрыманым АМАПам ва ўласным дворы. Пасля гэтага Ілля стаў хадзіць на суды і абскарджванні прысудаў, а затым пачаў збіраць прадукты і рабіць перадачы для затрыманых.

### Суткі, ператрус і ўлёткі з абразамі

Першы час, гаворыць суразмоўца, у Гомелі было некалькі дзясяткаў валанцёраў, якія маніторылі судовыя пасяджэнні, аказвалі інфармацыйную падтрымку сем'ям зняволеных, дапамагалі знайсці адвакатаў, збіралі прадукты і рэчы. Цяпер валанцёраў стала менш. Нехта сутыкнуўся з ціскам і быў вымушаны з'ехаць з краіны.

Самога Іллю таксама неаднаразова затрымлівалі, агулам ён адседзеў больш за 30 сутак у ІЧУ. Раніцай 16 лютага ў яго дома адбыўся ператрус па справе «Вясны» — хаця ніякага дачынення да праваабарончага цэнтру Ілля не мае і займаецца выключна інфармацыйнай і прадуктова-рэчавай падтрымкай зняволеных. Тым не менш, у яго забралі камп'ютар і банкаўскія карткі, але ў якім ён працэсуальным статусе, так і не паведамілі.

— Напрыканцы мінулага года я выйшаў пасля чарговых сутак з ізалятара. Мяне правялі ў апорны пункт, дзе паказалі фотаздымкі, паводле якіх я нібыта ўдзельнічаў у нейкай акцыі. Я сказаў, што ні ў чым не ўдзельнічаў. У выніку праз два дні, 25 лістапада, на мяне распачалі справу за распаўсюджванне экстрэмізму за фотаздымак, на якім я быў у футболцы гурта «Князz» з чэрапам і косткамі. У пратаколе напісалі, што гэта эмблема 3-й дывізіі СС. Быў суд, справу адправілі на дапрацоўку. Пакуль я не паскардзіўся ў пракуратуру, адказу, ці закрытая справа, не атрымаў. Пракуратура мне паведаміла, што 25 снежня справа была закрытая. Я лічу, што мяне вырашылі трымаць у такім падвешаным стане, — мяркуе актывіст.

Апроч гэтага нехта распаўсюджваў у пад'ездзе ўлёткі пра Іллю з асабістай інфармацыяй і абразамі. Але нягледзячы на ўсё гэта для сябе варыянт з'ехаць з краіны валанцёр па-ранейшаму не разглядае.

— Гэта было б выйсце, калі б у мяне была сям'я, маленькія дзеці. Я пішу лісты палітвязням, займаюся інфармацыяй — калі я выеду за мяжу, я не змагу дапамагаць людзям у такім аб'ёме. Я не з'язджаю, таму што трэба быць прыкладам. Я не бачу нічога, з-за чаго б мог аказацца за кратамі. Дый мы столькі ўжо зрабілі на ўзроўні Гомеля, што ў

# змагу абняць мужа»

### Чатыры гадзіны катаванняў

Адвакат, з якім Вольга заключыла дамову, пасля першага спаткання з Арцёмам заўважыў у хлопца рассечанае брыво. Тады Воля ўжо рыхтавалася да распаведаў пра тое, што было пры затрыманні Арцёма.

— У судзе ад паказанняў іншых фігурантаў справы я пачула, што іх катавалі, — узгадвае Воля. — Падрабязнасці я даведалася ўжо пасля ад Арцёма: нешта — з яго лістоў, нешта — са спатканняў. На спатканні, якое было пасля суда, Арцём паказаў мне сляды ад электрашокера. Яны былі па ўсім целе. Больш дэталёва ён распавёў мне пра катаванні два месяцы таму — і папрасіў усё гэта апублічыць.

Зняволены сведчыў, што пры затрыманні яму выкручвалі каленныя і лакцявыя суставы, пярцовым балончыкам поўнасцю залілі твар, пры тым два чалавекі трымалі, а адзін заліваў. Па словах Арцёма, катаванні цягнуліся каля чатырох гадзін. Яму пагражалі, што павесяць на дрэве, берцамі станавіліся на галаву і ўтоптвалі яе ў асфальт. Ніякай медыцынскай дапамогі не аказалі.

— Я была гатовая да яго расповеду, бо ўжо чула падобнае ад іншых хлопцаў, якія праходзілі па гэтай справе, — прызнаецца Воля. — Я не хацела, каб Арцём пабачыў, што я перажываю, таму на спатканні намагалася быць спакойнай. Канечне, калі прыехала дадому, расплакалася… Людзі, як вы можаце рабіць такое? За што? За тое, што чалавек машыну падрапаў? За гэта вы хацелі нацягнуць прэзерватыў на дубінку і гвалціць майго мужа? За гэта вы клалі збітых людзей адно на аднаго і ўтоптвалі ў бруд? Усе вы, што катавалі хлопцаў, павінны быць пакараныя.

### Забыў, як карыстацца тэлефонам

Усе паўгода Воля займалася перадачамі, пошукам адвакатаў, якіх за ўвесь час яна мяняла тройчы. Усё яе жыццё цяпер — гэта праца, справы, звязаныя з Арцёмам, і падтрымка іншых палітзняволеных. Але яна намагаецца не сумаваць, каб Арцём не перажываў за яе.

Арцём палітзняволеным не прызнаны. Воля кажа, што праз гэта ён атрымлівае мала лістоў ад беларусаў.

— Мне найбольш хочацца, каб Арцём атрымліваў інфармацыю пра тое, што адбываецца ў краіне і ў свеце. Мы па вечарах звычайна глядзелі з ім Euronews. На спатканні я намагалася распавядаць яму розныя цікавосткі, напрыклад, пажартавала пра перадачу бадзёрасці і энергіі праз паціскванне рук. Сама смяюся, а ён — не, бо адкуль яму ведаць пра гэта? Калі на судзе ён пабачыў у адваката тэлефон, то не адразу ўзгадаў, як ім карыстацца…



Фота Дзмітрыя Дзмітрыева

### Жыццё ў чаканні

Цяпер Вользе ўжо лягчэй. Канечне, сум накатвае, асабліва ўвечары. Апошні раз яна бачыла мужа 31 сакавіка, адразу пасля апеляцыі, калі вырак суда пакінулі без зменаў. Яна шчыра спадзяецца, што ў калоніі яму будзе прасцей, чым у СІЗА. Пакуль Арцём быў у СІЗА на Валадарскага, ён маляваў, займаўся спортам, шмат чытаў.

Пра тое, што мужа этапавалі ў Магілёўскую калонію, Воля даведалася, калі прыехала да яго ў Жодзінскае СІЗА. Цяпер перад ёй паўстаў новы жыццёвы этап.

— Арцём, як і іншыя, чакаў вясны, — кажа Воля. — Ён казаў, што яны чакалі і верылі, што людзі іх вызваляць. Напэўна, калі не верыць, то там вельмі цяжка даводзіцца.

— Што будзеце рабіць цяпер? — пытаю ў Волі.

— Арцём запытаў у мяне тое ж самае… Перажывае, як буду без яго. Але што я магу рабіць? Чакаць — час ляціць хутка. Часам мне ўяўляецца, што зараз адчыняцца дзверы — і ён зойдзе… Хаця, канечне, я разумею, гэта немагчыма, бо старыя дзверы нам выламалі, цяпер стаяць ужо іншыя. Вельмі хачу яго абняць. На спатканні Арцём казаў, што і ён больш за ўсё хоча да мяне прытуліцца, але зрабіць гэтага не змог: перашкаджала шкло. Таму я проста буду чакаць, калі нарэшце змагу абняць мужа.

# трэба быць прыкладам»

выпадку майго затрымання іншыя людзі стануць яшчэ больш актыўна займацца валанцёрскай дзейнасцю, — перакананы Ілля.

Суразмоўца ў гэтым упэўнены, бо параўноўвае цяперашнюю сітуацыю ў Беларусі з падзеямі 10-гадовай даўніны, калі адбываліся маўклівыя акцыі пратэсту. Па яго назіраннях, у людзей ужо няма такой абыякавасці да таго, што адбываецца навокал, якая была тады.

### На 1 100 лістоў — 100 адказаў

Адзін з вялікіх напрамкаў валанцёрскай дзейнасці Іллі Міронава — напісанне лістоў палітзняволеным. Атрыманымі адказамі ён дзеліцца ў сацсетках — каб натхніць іншых людзей пісаць лісты ці дасылаць пасылкі. Спачатку Ілля пісаў тым, хто апынуўся на сутках у гомельскім ІЧУ. Потым стаў дасылаць лісты тым, хто трапіў за краты ўпершыню.

— Я пішу словы падтрымкі, бо асабіста быў у гэтай сітуацыі, калі знаходзіўся ў ізалятары і атрымаў першы ліст ад невядомага чалавека. Гэтыя пачуцці немагчыма было перадаць. Я зразумеў, што падтрымка з волі нават важнейшая за тыя харчы, якія перадаюць, гэта як прамень сонца і глыток паветра, — узгадвае валанцёр.

Так Ілля пачаў пісаць па 10–15 лістоў на дзень, агулам з канца снежня ён даслаў ужо больш за 1100 пасланняў за краты, а атрымаў каля 100 адказаў. Праўда, гаворыць суразмоўца, цягам апошняга месяца сітуацыя з ліставаннем пагоршылася: ён атрымлівае вельмі мала адказаў. Ёсць меркаванне, што ад тых, хто піша шмат, лісты вязням не перадаюць цэнзары. Таму цяпер Ілля набывае паштоўкі і перадае тым, хто хоча даслаць вестку палітзняволеным.

Бываюць гісторыі, калі зняволенаму перадаюць пусты канверт з чыстымі аркушамі, а паштоўку ці ліст, якія ў ім ляжалі, — не. Але нават гэта для закратаванага з'яўляецца сведчаннем таго, што пра яго памятаюць і імкнуцца падтрымаць.

Ілля прызнаецца, што сітуацыя, калі шмат пішаш, а ў адказ нічога не атрымліваеш, дэмаралізуе і прыводзіць да выгарання. Але ён не спыняецца.

— Тыя, хто знаходзіцца за кратамі, пішуць лісты з вельмі моцнай энергетыкай. Гэтыя людзі, магчыма, пазбаўлены магчымасці атрымліваць лісты, часам ім не перадаюць перадачы, раз-пораз яны сядзяць у карцары. Але яны пішуць вельмі моцныя лісты. Іх энергетыка і дае сілы, — дзеліцца валанцёр.

У Іллі ёсць своеасаблівы лайфхак: калі ён сам не атрымлівае зваротнай сувязі ад вязняў, ён чытае лісты, якія прыходзяць іншым людзям, апублікаваныя ў фэйсбук-суполцы «Пісьма салідарнасці 2020». І гэта для яго — таксама крыніца натхнення.

— Часам ужо ноч, і раніцай трэба ўставаць, а ты сядзіш і чытаеш, і за кожнага перажываеш да слёз, шукаеш, як падтрымаць, — прызнаецца Ілля.

Рэцэпт па супрацьдзеянні цэнзарскім перашкодам у Іллі адзін: працягваць пісаць зняволеным. Але важна, каб і яны пісалі ў адказ.

— Гэта вельмі яднае людзей, у нас нарэшце з'явілася грамадзянская супольнасць, і гэта звязана з падтрымкай адзін аднаго і аказаннем дапамогі, — падкрэслівае Ілля Міронаў.

### Моц салідарнасці

У Іллі шмат гісторый пра моц салідарнасці. Так, нядаўна СМІ абляцела гісторыя 18-гадовага палітвязня з Брэста Дзяніса Хазея. Хлопец напісаў сваякам, што за 37 дзён, праведзеных у СІЗА, ён не атрымаў лістоў ні ад каго, апроч самых блізкіх людзей. Ілля Міронаў напісаў пра гэта ў сваіх сацсетках, і ўсяго праз тыдзень Дзяніс з вялікай удзячнасцю напісаў пра тое, што яго літаральна завалілі лістамі са словамі падтрымкі.

Таксама валанцёр атрымаў вельмі сумны ліст ад гомельскага палітвязня Сяргея Верашчагіна, які пісаў пра тое, як яму складана і што ён не разумее, за што трапіў у турму. Гэты ліст Ілля таксама размясціў у сацыяльных сетках, ён разышоўся па СМІ, і людзі сталі цікавіцца, як можна падтрымаць Сяргея. Таму Ілля спадзяецца, што наступны ліст ад вязня будзе больш пазітыўным.

Аднак усё яшчэ ёсць і тыя, хто баіцца пісаць зняволеным, указваць сваё імя і адрас (хаця гэтага можна не рабіць). Але Ілля гаворыць, што людзі да гэтага прыходзяць з часам, калі разумеюць, наколькі важная іх падтрымка.

**«Калі знаходзіўся ў ізалятары, я атрымаў першы ліст ад невядомага чалавека. Гэтыя пачуцці немагчыма перадаць. Я зразумеў, што падтрымка з волі нават важнейшая за тыя харчы, якія перадаюць, гэта як прамень сонца і глыток паветра…»**

Валанцёрства — занятак, які вымагае шмат рэсурсаў, перадусім унутраных. Аднавіць сілы, апроч лістоў, Іллю вельмі дапамагае падтрымка блізкіх, асабліва ён удзячны сваёй маці. Апроч гэтага ратуюць канцэрты і любімая музыка, а яшчэ, як ні дзіўна, іншая валанцёрская дзейнасць.

— Некалькі тыдняў таму я ў якасці валанцёра ездзіў на пасадку лесу пад Рэчыцу. Людзі ў вольны час, у асноўным па выхадных, ездзяць саджаць лес, і я з'ездзіў на адзін дзень — гэта надало мне моцы. Калі пакідаеш дома тэлефон, застаешся з прыродай сам-насам і саджаеш лес, ты ведаеш, што ён вырасце і дасць камусьці энергію, — дзеліцца Ілля.

Ілля Міронаў стараецца не думаць пра тое, колькі яшчэ часу беларусам давядзецца жыць пад ціскам і рэпрэсіямі, але ён абсалютна перакананы: перамога магчымая толькі калі будзе ўсеагульная салідарнасць і ўзаемадапамога.

— Калі працоўны і фермер будуць цалкам адзін аднаму давяраць, не будуць баяцца і будуць падтрымліваць адзін аднаго. Кожны мае свае рэсурсы і сувязі, і калі ўсё гэта аб'яднаць, мы зможам дамагчыся сваіх мэтаў.

Ілля разважае, што звальненне лепшых кадраў на прадпрыемствах, якое цяпер адбываецца, паступова можа прывесці да спынення вытворчасці. Эканамічная сітуацыя ў краіне пагаршаецца, адпаведна, падае і ўзровень жыцця людзей. І гэта непазбежна прывядзе да таго, што пачнуцца забастоўкі, якія падтрымае ўся кансалідаваная грамадзянская супольнасць.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### Польшча. Колькі каштуе ў лехах?

Цікавую дэталь прыгадалі мясцовыя гісторыкі з нагоды гадавіны (няхай і не круглай) з'яўлення польскай нацыянальнай валюты — «злотага». Здарылася гэта 24 красавіка 1919 года.

Аказваецца, польская валюта магла называцца «лех». Менавіта з такой ініцыятывай выступіў тады Юзаф Пілсудскі, які на той момант меў дыктатарскія паўнамоцтвы. Магчыма, у Нацыянальным банку загад Пілсудскага быў бы выкананы, але на той момант пачаў працаваць першы Сейм. Яго дэпутаты былі не ў захапленні ад грошай пад назвай «лех», і ў выніку прагаласавалі за тое, каб змяніць назву разліковай адзінкі на «злоты».

Асноўны аргумент быў звязаны з гісторыяй. Банкноты, намінаваныя ў злотых, выпускаліся ў час паўстання Касцюшкі. Таксама «злотымі» называліся папяровыя грошы ў Каралеўстве Польскім, якія ў 1841 годзе руская адміністрацыя замяніла рублямі. Такім чынам, рашэнне польскага парламента, прынятае ў 1919 годзе, заключалася ў тым, каб аднавіць назву валюты, якую ліквідавалі захопнікі.

Застаецца дадаць, што свае ідэі наконт назвы грошай таксама вылучала і грамадскасць. Сярод іншага гучала прапанова назваць польскую грашовую адзінку «касцюшка».

**Паводле польскай прэсы**

### Італія. Бывай, піца?

У Італіі, на радзіме піцы, з'явіўся аўтамат па прыгатаванні той самай смачнай стравы. Першы апарат пад назвай Mr.Go. Pizza пастаўлены на плошчы Балонні. Як ён працуе? Унутры аўтамата ёсць міксер, які сам гатуе класічнае цеста з вады і мукі, якое затым прэсуецца ў плоскую і круглую форму піцы. Кліент выбірае любімыя інгрэдыенты, а аўтамат размяркоўвае іх па




Фота www.crispy.news

цесце. Пасля піца выпякаецца пры тэмпературы 380 градусаў. Затым прадукт змяшчаецца ў кардонку і выдаецца пакупніку. Увесь час прыгатавання займае каля трох хвілін. Аўтамат прапануе на выбар чатыры самыя папулярныя варыянты піцы. Кошт яе, прыгатаванай бяздушным аўтаматам, — ад 4,5 да 6 еўра. Паводле каментатараў, наўрад ці аўтаматы а-ля Mr.Go.Pizza цалкам знішчаць прафесію pizzaiolo (вытворца піцы). Аднак нейкая нервовасць сярод чальцоў гэтай гільдыі ўжо назіраецца.

**Паводле італьянскай прэсы**

### ФРАНЦЫЯ. Дакументы на англійскай не патрэбныя

Калі ў мінулым месяцы Францыя апублікавала планы па выпуску новых лічбавых пасведчанняў асобы, французы злёгку напружыліся. Многія ўбачылі ў гэтым пагрозу парушэння прыватнасці.

Але сапраўдны скандал быў яшчэ наперадзе і аказаўся звязаны з мовай. Справа ў тым, што на ID вырашылі размясціць тэкст на французскай і на англійскай мовах. Гэта ўзрушыла французскую публіку. Аказваецца, многія лічаць, што пасля Brexit Еўропа павінна адмовіцца ад англійскай мовы. Вакантнае месца, на думку шмат каго, можа заняць нямецкая.

Найбольш радыкальныя нацыяналісты лічаць, што ў колах вышэйшай бюракратыі ёсць гурт англафілаў, які працуе на культурную асіміляцыю Францыі. Калі англійскі тэкст на ID захаваецца, то шмат французаў збіраюцца байкатаваць новыя пасведчанні.

**Паводле французскай прэсы**

### РАСІЯ. Нас абяруць!

Рэзананс выклікала навіна з Іванава, дзе былая салістка гурта «Тату» Юлія Волкава вырашыла прыняць удзел у папярэднім галасаванні (праймерыз) прапуцінскай партыі «Адзіная Расія».

Сама спявачка апублікавала фатаграфію з рэгіянальнага аддзялення партыі ў Іванаўскай вобласці і заявіла, што «зрабіла першы крок». Іншыя падрабязнасці яна абяцала раскрыць пазней.

Зрэшты, і першага кроку Волкавай хапіла, каб стаць гераіняй сацсетак. Многія разглядаюць намінацыю спявачкі як праяву новай тактыкі «Адзінай Расіі» — прыцягваць у свае выбарчыя спісы публічных фігураў, што маюць хоць нейкую пазнавальнасць. Пры гэтым адзінаросам, якія шмат гавораць пра духоўнасць, зусім фіялетава, што «Тату» ў свой час актыўна эксплуатавала эратычныя тэмы. У гэтым трэндзе дапускаюць, што хутка ў спісах партыі з'явяцца Бузава або Юрый Куклачоў.

Парадаксальна, але многія ў форумах лічаць, што Волкаву можна выбіраць у Думу. Яны кажуць, што на фоне цяперашніх дэпутатаў горш ужо дакладна не будзе.

**Паводле расійскай прэсы**

# Прыватызаваць Напалеона

Алег НОВІКАЎ

**5 траўня споўнілася 200 гадоў са дня смерці Напалеона, спадчыну якога намагаліся скарыстаць шматлікія дыктатары. Далей за ўсіх пайшоў, напэўна, Беніта Мусаліні.**



Фота www.vminsk.by

Тое, што дыктатары цікавіліся і цікавяцца Напалеонам, цалкам натуральна — з улікам грамадска-палітычнай матрыцы аўтарытарных рэжымаў. Як правіла, у цэнтры ўсіх працэсаў знаходзіцца фігура правадыра. Сам феномен такой мадэлі лідара паўстаў менавіта ў эпоху Напалеона.

Ён жа часткова распрацаваў і правілы функцыянавання такой сістэмы, якія ўключаюць культ кіраўніка дзяржавы (Банапарта, якога яшчэ пры жыцці называлі «самым вялікім чалавекам»), адміністрацыйную вертыкаль, паліцэйскі кантроль, цэнзуру, нагляд за грамадскай дыскусіяй і гэтак далей.

Пры гэтым дыктатары свядома або міжволі дзейнічаюць не толькі ў фарватэры напалеонаўскіх запаветаў. Вельмі часта яны намагаюцца выяўляць сябе ледзь не клонамі Банапарта. У якасці прыкладу на памяць адразу прыходзіць лідар Цэнтральнай Афрыканскай Рэспублікі Жан Бакаса, які ў 1976 годзе абвясціў сябе імператарам. Пры гэтым цырыманіял каранацыі Бакаса ў мікраскапічных дэталях капіяваў каранацыю Напалеона.

Зрэшты, абвяшчаючы сябе імператарам, Бакаса, хутчэй за ўсё, задавальняў асабістыя комплексы. Значна больш сістэмна эксплуатавалі напалеонаўскую тэму ў фашысцкай Італіі. Адразу пасля захопу ўлады ў 1922 годзе бясконцыя парушэнні законаў і гвалт з палітычных крытыкаў падаваліся ў рэчышчы гегелеўскіх тэзісаў пра Напалеона, які, маўляў, быў вышэйшым за архаічныя нормы і законы, паколькі ім рухаў дух гісторыі.

Па ходзе фарміравання персанальнай дыктатуры Дучэ, яго пратаганісты шмат казалі, што Італіі тэрмінова патрэбная фігура калібру Напалеона, якая здольная аб'яднаць вакол сябе ўсю нацыю без падзелу на класы і сацыяльныя групы. Прага Мусаліні да абсалютнай улады падавалася на прыкладзе Банапарта як нейкі пазітыў. Іншымі словамі, за кошт падобных клішэ фашысты спрабавалі легітымізаваць новы парадак.

Была ў Мусаліні яшчэ адна падстава, каб эксплуатаваць напалеонаўскі міф. Як вядома, Напалеон нарадзіўся на Корсіцы, якую італьянскія нацыяналісты лічаць часткай этнічнай Італіі. Таму Банапарта ахвотна абвяшчалі італьянцам, каб узняць на Апенінах дух нацыяналізму. Даходзілі да таго, што Банапарта нават называлі «італьянец, які захапіў французскі трон».

Трэба адзначыць, тэорыя пра тое, што Мусаліні — рэінкарнацыя Напалеона, карысталася на той час пэўнай папулярнасцю. Пачатак 1920-х гадоў — гэта перыяд крызісу буржуазных дэмакратый. Той працэс часта параўноўвалі з крызісам феадалізму на мяжы XVIII і XIX стагоддзяў. Італьянская фашысцкая альтэрнатыва шмат каму з сучаснікаў нагадвала напалеонаўскі праект.

Так ці інакш, на нейкім этапе здарылася тое, чаго трэба было чакаць, — пачаліся спробы ўбачыць у постаці і харызме Мусаліні нешта ад Напалеона. Адна

**Правал у вайне супраць СССР нагадваў шмат каму правал кампаніі Напалеона ў 1812 годзе — з усімі трагічнымі наступствамі для яго імперыі. Таму імя Напалеона раптам стала для фашыстаў табу**

з біяграфій дыктатара, якая была выдадзеная ў 1931 годзе, так і называлася: «Напалеон італьянскай рэвалюцыі». «Мусаліні — гэта экстраардынарны чалавек. Яго рашучасць нагадвае напалеонаўскі геній», — пісаў яе аўтар. На базе такіх высноваў нават рабіліся сенсацыйныя заявы, што Напалеон быў першым фашыстам у гісторыі!

Найбольшыя падхалімы нават бачылі ў твары Дучэ фізіялагічнае падабенства з рысамі твару Банапарта. На адной канферэнцыі ў Рыме ў 1927-м адзначалася антрапаметрычнае падабенства абодвух палітыкаў. Сапраўды, Напалеон і Мусаліні былі невялікага росту і схільныя да паўнаты ў грудзях.

Не адставалі ад трэнду і лідаркі жаночай фракцыі партыі фашыстаў. Яны задаваліся пытаннем: чаму ў Банапарта было так шмат каханак? Адказ знайшла нейкая Маргарыта Фаціні ў 1935 годзе. На яе думку, Напалеону быў уласцівы нейкі асаблівы магнетызм, наяўнасць вялікай моцы, што і выклікала цікавасць кабетаў. Падобным магнетызмам у тыя часы валодаў, натуральна, толькі Беніта Мусаліні.

Пошук асацыяцый паміж Мусаліні і Напалеонам парадаксальным чынам паскорыў крах рэжыму. Паралелі з Банапартам узмацнялі агрэсіўны тон фашысцкай прапаганды, перш за ўсё наконт міжнародных пытанняў. Сама ідэя замежных інтэрвенцый і ўзмацнення глабальнай ролі Італіі разглядалася ў фашысцкай дыскусіі як нешта прыроднае і нармальнае, паколькі ў той жа парадыгме разумеў сутнасць сваёй імперыі Напалеон Банапарт. Гэта ў выніку спрыяла фатальнаму рашэнню Дучэ пра пачатак вайны супраць Эфіопіі, што ў перспектыве, як высветлілася, стала пралогам банкруцтва фашысцкай дзяржавы.

Спробы прыватызаваць Напалеона скончылася для фашыстаў вельмі камічна. Па ходзе таго, як пасля Сталінграду перамога антыгітлераўскай кааліцыі станавілася ўсё больш відавочнай, фашысцкім прапагандыстам сурова забаранілі праводзіць паралелі паміж Дучэ і Напалеонам. Справа ў тым, што Італія як саюзнік Гітлера таксама даслала фарміраванні на Усходні фронт. Правал у вайне супраць СССР нагадваў шмат каму правал кампаніі Напалеона ў 1812 годзе — з усімі трагічнымі наступствамі для яго імперыі. Таму імя Напалеона раптам стала для фашыстаў табу. Зрэшты, падобныя піяр-прыёмы не дапамаглі Мусаліні. Як вядома, партызаны забілі і павесілі дыктатара ўверх нагамі напрыканцы красавіка 1945 года.

# «Збіраліся дабіць дэпутатаў і прэзідэнта...»

Алег НОВІКАЎ

**Гучная справа пра замах на беларускага гаранта шмат у каго ва Украіне выклікала асацыяцыі са скандальнай аферай Надзеі Саўчанка.**



Фота www.iz.ru

Увогуле, такая з'ява, як замах на лідара дзяржавы, паўстала ва Украіне яшчэ да афіцыйнага абвяшчэння незалежнасці. Падчас прэзідэнцкай выбарчай кампаніі 1991 года тагачасны кіраўнік краіны, будучы прэзідэнт Украіны Леанід Краўчук наведваў рынак у Харкаве. Тады мужчына з натоўпу паспрабаваў ударыць палітыка нажом. Адзін з ахоўнікаў падставіўся пад удар — і атрымаў рану глыбінёй у 18 сантыметраў, але ў выніку, на шчасце, застаўся жывы. Нападніка так і не знайшлі, а сам Краўчук успрыняў сітуацыю як выхадку нейкага вар'ята.

Да канца не зразумелая гісторыя замаху на наступнага прэзідэнта, Леаніда Кучму. У лютым 2004-га Кучма зрабіў сенсацыйную заяву, што падчас студзеньскага адпачынку ў Бадэн-Бадэне чальцамі нейкай крымінальнай групоўкі на яго рыхтаваўся замах. Былі аператыўна арыштаваныя два кілеры, якія павінны былі гэты замах здзейсніць. Нягледзячы на такі паспяховы старт следства, справа ў выніку заглухла. Для беларускага чытача цікавы той нюанс, што раскрыць змову дапамог ліст добразычліўца на ўкраінскае пасольства ў ФРГ, які нагадвае вядомую гісторыю пра «фрау А».

Аднак самым гучным «замахам» на палітыка ва Украіне доўгі час заставалася траплянне яйкам у Віктара Януковіча ў Івана-Франкоўску падчас прэзідэнцкай кампаніі 2004 года. Януковіч тэатральна ўпаў, каб імгненна стаць героем жартаў.

Больш рэзанансны за замах на Януковіча аказалася толькі справа Надзеі Саўчанка ўвесну 2018-га. Нагадаем, Саўчанка — украінская ваеннаслужачая, якая трапіла ў расійскі палон у час канфлікту на Данбасе. Трымала галадоўкі пратэсту, была асуджаная расійскім судом. У траўні 2016 года была памілаваная — і вярнулася ў Кіеў у статусе куміра нацыі. Пакуль Саўчанка сядзела ў турме, яе абралі ў парламент, назвалі ў яе гонар шэраг плошчаў і вуліц, пісалі пра яе кнігі і вершы, а па вяртанні далі яшчэ і зорку Героя Украіны.

Спачатку імя Надзеі Саўчанка не сыходзіла з навінавых рэсурсаў. Прэса нават падрабязна пісала, як яна з сяброўкай выпіла два літры гарэлкі. Эйфарыя вакол Надзеі пачала сціхаць па ходзе таго, як публіка бліжэй пазнаёмілася са сваім кумірам. Тая не толькі з нагамі залазіла ў крэсла дэпутата і мацюкалася на ток-шоу. Яе імпульсіўны характар і прага справядлівасці хутка прывялі яе ў лагер крытыкаў улады. Акрамя таго, Саўчанка паспрабавала наладзіць прамы дыялог з Данецкам і Луганскам, неаднаразова наведвала лідараў сепаратыстаў.

Развязка канфрантацыі Саўчанка і Парашэнкі аказалася фантастычнай. 15 сакавіка 2018-га генпракурор асабіста абвінаваціў яе і яе знаёмага Уладзіміра Рубана ў падрыхтоўцы замаху на ўсю эліту краіны. Пры гэтым план Саўчанка – Рубана, калі верыць пракурору, выглядаў не горш за сцэнар самага крутога галівудскага баевіка.

Паводле генпракурора, Рубан планаваў падчас знаходжання Пятра Парашэнкі на пасяджэнні Вярхоўнай Рады абстраляць з мінамётаў будынак парламента з баржы, што знаходзілася на Дняпры. У якасці мішэні павінен быць выкарыстаны купал будынка Вярхоўнай Рады. Абстраляўшы парламент, змоўшчык збіраўся дабрацца да іншага берага горада на катэры і схавацца ў дняпроўскіх затоках.

Пасля гэтага на сцэну павінна была выйсці Надзея Саўчанка са сваёй жудаснай місіяй. Лётчыца і яе сябры-ветэраны АТА мусілі ўварвацца ў залу Вярхоўнай Рады і дабіць дэпутатаў і прэзідэнта з аўтаматаў Калашнікава. Пасля крывавай лазні Саўчанка і Рубан, нібыта, планавалі сустрэцца і здзейсніць рэйд па месцы пражывання дзяржаўных дзеячаў і палітычных лідараў з мэтай іх бязлітаснага забойства.

**Што да грамадскасці, то яна не паверыла словам генпракурора. Як жартавалі на форумах, жаданне перастраляць дэпутатаў ёсць амаль ва ўсіх украінцаў. Публіка, хутчэй, спачувала Надзеі Саўчанка**

Галоўным доказам у справе стаў відэазапіс размовы Саўчанка і Рубана з украінскімі спецназаўцамі, якія, як высветлілася потым, супрацоўнічалі з СБУ. Відэазапіс генпракурор прадэманстраваў у Вярхоўнай Радзе. Таксама ў справе фігуравалі кадры цэлага арсенала, які, калі верыць сілавікам, знайшлі ў машыне Рубана на мяжы з ДНР.

Крыху пазней у справе з'явіліся новыя дэталі. Пётр Парашэнка заявіў, што Саўчанка працавала ў звязцы з расійскімі спецслужбамі, якія хацелі ў рамках перавароту «пасеяць хаос і знішчыць Украіну». Адзін з блізкіх да прэзідэнта палітыкаў заявіў, што Саўчанка збіралася ўжыць для забойства прэзідэнта дзве гранаты. У планах Надзеі было абрынуць у сесійнай зале гіганцкую жырандолю, каб яе аскепкі зрабілі эфект выбуху фугаса.

Саўчанка адрэагавала на абвінавачванні ў сваім фірмовым стылі. «Абвінавачванні ў падрыхтоўцы ваеннага дзяржаўнага перавароту і таксама ў замаху на ўладу — гэта добрыя абвінавачванні... Добрыя тым, што я афіцэр Узброеных Сіл Украіны. Як афіцэр Узброеных Сіл Украіны я давала клятву ўкраінскаму народу абараняць украінскую зямлю», — сказала яна.

Пазней Надзея сцвярджала, што стала ахвярай правакацыі ўкраінскіх спецслужбаў. Паводле яе слоў, яна ведала, што за ёй сочыць СБУ, і ўсе гэтыя размовы на самай справе — палітычны тролінг з яе боку.

Што да грамадскасці, то яна не паверыла словам генпракурора. Як жартавалі на форумах, жаданне падарваць купал і перастраляць дэпутатаў ёсць амаль ва ўсіх украінцаў. Увогуле, публіка хутчэй спачувала Надзеі, якая стала ахвярай правакацыі.

Аднак у прынцыпе ўсё скончылася для яе не так і кепска. У ноч на 16 красавіка 2019-га скончылася мера стрымання Надзеі Саўчанка і Уладзіміра Рубана пад вартай. Вязні былі вызваленыя ў судовай зале, але засталіся ў якасці абвінавачаных. Праўда, адказу на галоўнае пытанне пра тое, хто прыдумаў вар'яцкую гісторыю пра замах, мінамёты і жырандолю-фугас, — украінцы дасюль не дачакаліся.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Марат Хуснулін



Віцэ-прэм'ер Расійскай Федэрацыі гальванізаваў палітычнае жыццё ў нацыянальных аўтаноміях Расіі пасля таго, як заявіў, што «лічыць існуючы прынцып адміністрацыйна-тэрытарыяльнага падзелу Расійскай Федэрацыі няправільным». Паводле яго слоў, «85 рэгіёнаў не патрэбныя», а «кропкай росту» з'яўляюцца агламерацыі.

Развагі чыноўніка перапалохалі актывістаў маленькіх этнасаў Расійскай Федэрацыі. Яны асцерагаюцца, што іх рэспублікі ў рамках рэформы, якую задумаў Хуснулін, будуць ліквідаваныя. Страхі ўзмацняе і статыстыка: з моманту распаду Савецкага Саюза колькасць суб'ектаў Расійскай Федэрацыі толькі памяншалася. Праўда, пакуль пад удар трапілі толькі нацыянальныя аўтаноміі народаў Поўначы. Адзіным выключэннем стаў праект прыяднання Ненецкай аўтаномнай акругі да Архангельскай вобласці. Пра гэты «аншлюс» шмат казалі ў мінулым годзе, аднак планы былі згорнутыя пасля абурэння мясцовых жыхароў.

Зрэшты, не ўсе актывісты на месцах крытыкуюць праекты Хуснуліна. Адна з башкірскіх нацыяналістычных арганізацый разлічвае, што дзякуючы яму з'явіўся гістарычны шанец вярнуць у склад Башкірскай аўтаноміі некаторыя раёны Арэнбургскай вобласці. Гэтыя тэрыторыі былі часткай аўтаноміі да 1925 года. Праўда, у падобную перспектыву верыцца з цяжкасцю, бо ў такім выпадку Башкірыя атрымае агульную мяжу з Казахстанам, што ўзмоцніць уплыў Астаны ў расійскім рэгіёне.

### Мігель Дыяс-Канель



Хаця фармальна Дыяс-Канель з'яўляецца прэзідэнтам Кубы ад 2019 года, толькі цяпер яго можна назваць сапраўдным кіраўніком. Фактычна, уся ўлада на востраве належыць Кампартыі, пасаду старшыні якой Дыяс-Канэль атрымаў ад Рауля Кастра пару тыдняў таму. Такім чынам скончылася 62-гадовая эра праўлення братоў Кастра.

Міма гэтага не прайшлі ў Вашынгтоне, дзе зандуюць глебу для мірнай дамовы з Гаванай. Блізкая да Дэмакратычнай партыі Washington Post у рэдакцыйным артыкуле заклікала адміністрацыю Байдэна неадкладна наладзіць дыпламатычныя адносіны з Дыяс-Канелем і змусіць Кангрэс адмяніць рэжым эмбарга. На думку рэдакцыі, кубінскі прэзідэнт можа стаць кубінскім Гарбачовым, хаця б таму, што нарадзіўся пасля рэвалюцыі 1959 года і не падыходзіць да яе запаветаў як фанатык. Washington Post таксама мяркуе, што пачаць кааперацыю з Кубай можна за кошт адпраўкі туды велізарнай колькасці танных амерыканскіх прадуктаў.

У прынцыпе, момант для наладжвання адносін з Гаванай абраны ўдала. Антыкастраўскае лобі, звязанае з Дональдам Трампам, у цяперашні час выглядае трошкі разгубленым. Аднак не факт, што сама Куба гатовая для пашырэння кантактаў са Злучанымі Штатамі. Пакуль Дыяс-Канель не зрабіў ніякіх намёкаў на дэмакратызацыю. «Калі б ён не быў згодны з палітыкай Рауля Кастра, ён бы не стаў яго пераемнікам», — тлумачыць паводзіны Дыяс-Канеля адзін з брытанскіх экспертаў.

### Алішэр Кадыраў



Усе партыі ва Узбекістане так ці інакш маюць ручны характар і ўпісаныя ў сістэму. Як вынік, інтарэс да іх і іх правадыроў мінімальны. Тым больш дзіўна, што лідар дэмакратычнай партыі Узбекістана «Нацыянальнае адраджэнне», якая імітуе апазіцыю да прэзідэнта, стаў сапраўды публічнай фігурай. Усё дзякуючы яго радыкальнай пазіцыі па пытанні адукацыі.

Алішэр Кадыраў абрынуўся з крытыкай на суайчыннікаў, якія аддаюць дзяцей у рускія школы. «Такія дзеці вырастаюць, не ўсведамляючы сваёй нацыянальнай ідэнтычнасці, і фактычна рыхтуюцца стаць гастарбайтарамі ў Расіі», — заявіў Кадыраў. Між тым, многія лічаць, што тэма мовы — не такая і важная для палітыка. Проста ён абраў формулу рэкламы сябе і сваёй структуры за кошт скандальных заяў. Раней лідар дэмпартыі крытыкаваў непрыстойную рэкламу сродкаў жаночай гігіены. А яшчэ — рашуча патрабаваў зрабіць больш жорсткім артыкул Крымінальнага кодэкса аб «мужаложніцтве» аж да таго, каб гомасексуалаў пазбаўлялі грамадзянства Узбекістана, і нават прымусова высылалі з краіны.

Можна дапусціць, што Алішэр свядома, у стылі Жырыноўскага, робіць скандал інструментам самарэкламы. Зрэшты, як яшчэ ва ўмовах «кіраванай дэмакратыі» палітык можа зрабіць сабе паблісіці?

# «Вялікія ўцёкі». Эпізод Другой сусветнай, пра які не ведалі ў СССР



Ігар МЕЛЬНІКАЎ



Брытанскія вайсковыя могілкі ў познаньскай цытадэлі. Фота з архіва аўтара

**У 1963 годзе на сусветныя экраны выйшаў галівудскі фільм «Вялікія ўцёкі», прысвечаны масавым уцёкам пілотаў авіяцыі саюзнікаў з нацысцкага палону.**

Калі я ўпершыню паглядзеў гэты фільм у пачатку 2000-х гадоў, у вочы кінулася, што сярод тых, хто арганізоўваў уцёкі са шталага «Люфт III» было шмат польскіх пілотаў, якія ваявалі ў складзе брытанскіх ВПС. Пазней мяне чакала яшчэ адно адкрыццё, звязанае з гэтым фільмам. Аказалася, што рэальныя ўцёкі пілотаў адбыліся на тэрыторыі Польшчы, а тыя, хто быў схоплены і расстраляны нацыстамі, пахаваныя ў Познані.

## Брытанцы ў руках НКУС

Калі я трапіў на вайсковыя могілкі брытанскай садружнасці ў познаньскай цытадэлі (там пахаваныя не толькі жаўнеры Другой сусветнай, але і Першай сусветнай вайны), то адразу ўбачыў, што шэраг брытанскіх палонных, якія там пахаваныя, загінулі ў 1940 годзе. Брытанскія вайскоўцы траплялі ў рукі немцаў падчас ваенных дзеянняў у Францыі летам таго ж 1940-га, а пілоты Royal Airforce (RAF) ажыццяўлялі баявыя вылеты не толькі над Францыяй, але і над Германіяй, і там іх часта збівалі.

Сярод іншых летам-восенню 1940 года ў нямецкім палоне на тэрыторыі акупаванай нацыстамі Польшчы загінулі і пахаваныя ў Познані брытанскія вайскоўцы Тэйлар, Брукер, Арчэр, Трымінгс ды іншыя. Другая сусветная вайна толькі пачыналася, і шмат каму з брытанскіх палонных хацелася працягваць барацьбу супраць нацыстаў, а дзеля гэтага трэба было збегчы з палону. Уцёкі праз тэрыторыю Германіі, дзе пранацысцкія настроі ў пачатку вайны былі дастаткова моцнымі, былі асуджаныя на правал. Заставаўся шлях на Усход — у СССР.

У свой час я знайшоў савецкія архіўныя дакументы 1941 года, у якіх згадваліся брытанскія вайскоўцы, якія ў той час знаходзіліся ў савецкіх лагерах і турмах. Так, у справаздачы Лаўрэнцію Берыя начальнік Упраўлення НКУС па справах ваеннапалонных Пётр Сапрунenka ў 1941 годзе адзначаў, што ў Казельскім лагеры для ваеннапалонных знаходзяцца французскія і брытанскія вайскоўцы, якія абвясцілі галадоўку.

Па словах брытанцаў і французаў, калі яны знаходзіліся ў савецкіх турмах у Беластоку, Мінску і Маскве, то пісалі лісты ў свае абмасады, аднак гэтая карэспандэнцыя не дайшла да адрасата. Замежнікі патрабавалі сустрэчы са сваімі дыпламатамі, аднак адміністрацыя лагера заявіла, што ніякіх патрабаванняў да НКУС палонныя выказваць не могуць. А хутка з Масквы прыйшло ўказанне ўзмацніць рэжым утрымання гэтых людзей і завербаваць у іх шыхты інфарматараў. Усяго на той момант у руках савецкіх спецорганаў знаходзілася 92 французскіх, 11 брытанскіх, 1 бельгійскі вайсковец. Сярод іх было 72 шарагоўца, 2 капітана, 2 лейтэнанта, больш за 20 сяржантаў і капралаў. Ва ўспамінах вязня савецкага ГУЛАГу польскага грамадзяніна Ежы Главалы ёсць таксама згадка пра брытанцаў. З вайскоўцамі з «Туманнага Альбіёна» паляк сядзеў у... мінскай «Валадарцы» і адзначаў, што трымаліся яны вельмі цвёрда і мужна.

На жаль, сёння дакладна не вядома, што стала з гэтымі «палоннымі», якія аказаліся ў руках НКУС у перыяд "мядовага месяцу" дыктатараў. Магчыма, падчас жудаснай эвакуацыі мінскіх турмаў у чэрвені 1941-га нехта з брытанцаў страў ахвярай людзей у «валошкавых фуражках».

## Падрыхтоўка легендарных уцёкаў

У 1942 годзе на тэрыторыі Трэцяга Рэйху ў мястэчку Жагань у Сілезіі быў створаны нямецкі шталаг для ўтрымання палонных пілотаў з краін антыгітлераўскай кааліцыі. Месца было абранае невыпадкова. Да нейтральнай Швейцарыі адтуль было 600 кіламетраў, а да Балтыйскага мора — каля 300 кіламетраў. Шталаг знаходзіўся на германскай тэрыторыі, а значыць, спачування вязням ад мясцовага насельніцтва чакаць не даводзілася. Лагер уяўляў сабой драўляныя баракі, вакол якіх быў плот з калючага дроту. Да таго ж нацысты змантавалі мікрафоны, каб сачыць за любой падазронай актыўнасцю палонных пілотаў.

Камендантам шталага «Люфт III» быў палкоўнік Люфтвафэ Фрыдрых фон Ліндайнэр-Вільдаў. Кантынгент вязняў складаўся ў асноўным з тых, хто раней спрабаваў збегчы, але паўторна трапляў у рукі нацыстаў. Першапачаткова ў «Люфт III» накіроўвалі ў асноўным брытанскіх пілотаў, а потым да іх дадаліся аўстралійцы, новазеландцы, канадцы і, зразумела, амерыканцы. Таксама там знаходзіліся і вязні з еўрапейскіх краін, якія змагаліся супраць нацыстаў. Нарэшце, у верасні 1944 года ў лагер прывезлі палонных пілотаў РСЧА з ліквідаванага ў Лодзі шталагу «Люфт II». Увосень 1944 года ў лагеры ў Жагані размяшчалася каля 10 тысяч ваеннапалонных з краін антыгітлераўскай кааліцыі.




Афіша галівудскага фільма. Фота з архіва аўтара

У 1944 годзе вайна ў Еўропе ішла да свайго лагічнага заканчэння. Адчувалі гэта і вязні, якія хацелі вырвацца з рук нацыстаў і помсціць ім. Вязні шталагу «Люфт III» пачалі рыхтаваць «вялікія ўцёкі». Вялікія — яшчэ і таму, што бегчы рыхтавалася каля 600 чалавек! У адрозненне ад савецкіх ваеннапалонных, пілоты з Вялікабрытаніі і іншых краін атрымлівалі пасылкі ад Чырвонага Крыжа. У іх, сярод іншага, таемна дасылаліся падробленыя дакументы, цывільная вопратка і іншыя, неабходныя для ўцёкаў рэчы. Акрамя гэтага, рыхтаваць уцёкі вязням дапамагалі амерыканскія выведнікі са спецыяльнага аддзела, які знаходзіўся ў Форце Хант у Вірджыніі. Перадача неабходных матэрыялаў і інфармацыі рабілася праз карэспандэнцыю, якую вязні дасылалі дадому і адкуль атрымлівалі рэчавыя пасылкі.

У падрыхтоўцы акцыі ўдзельнічаў і шэраг польскіх пілотаў «RAF». Сярод іх трэба ўзгадаць паручніка-навігатара 301-га бамбавальнага дывізіёна Паморскай зямлі Уладзіміра Каланоўскага. Ён падрыхтаваў 3 тысячы копій карт, патрэбных для арыентацыі на мясцовасці тым, хто пабяжыць з лагеру ў Жагані. Пры гэтым рабіліся карты для груп, якія пабягуць у бок Балтыйскага мора і Швецыі, для тых, хто вырашыць рухацца праз акупаваную нацыстамі Чэхаславакію і Аўстрыю, і тых, хто адважыцца бегчы праз Рэйх у бок Францыі. Таксама Каланоўскі ўдзельнічаў у стварэнні лесвіц для спуску ў тунэлі-падкопы.

## «Адрыў»

Палонныя пілоты падрыхтавалі тры падземныя тунэлі, якія атрымалі назвы «Том», «Гары» і «Дзік». Аднак хутка немцы знайшлі «Тома», а выхад на паверхню з «Дзіка», у выніку перабудовы перыметру лагера, апынуўся на тэрыторыі шталагу. Тунэль «Гары» быў 111 метраў даўжынёй. Прынялі рашэнне, што праз яго пабягуць некалькі соцень зняволеных, а «шчасліўчыкаў» выбіралі па жэрабю. У выніку, у ноч з 24 на 25 сакавіка 1944 года «ў адрыў» пайшоў 81 чалавек. Уваход у тунэль знаходзіўся ў адным з баракаў. Аказалася, што ён заканчваўся дастаткова далёка ад лесу, і да дрэў трэба было бегчы па адкрытай мясцовасці. Праз тунэль паспелі прайсці 76 чалавек, калі ўцекачоў заўважыла ахова шталагу.

У сакавіку-красавіку 1944 года нацысты злавілі амаль усіх, хто паспрабаваў уцячы са шталагу «Люфт III». Уратаваліся толькі нарвежскія пілоты Петэр Бергсланд і Енс Мюлер, а таксама галандскі лётчык Брам ван дэр Сток. Гітлер выдаў асобны загад, паводле якога ўсіх, хто спрабаваў уцячы з Жагані, павінны былі расстраляць. Праўда, Герынг потым яго «змякчыў», і ў выніку нацысты забілі 50 чалавек са складу ўцекачоў.

Сярод тых, хто ўдзельнічаў у «вялікіх уцёках», на брытанскіх вайсковых могілках у Познані пахаваныя: грэчаскі пілот самалёта «Харыкейн», падпаручнік Саціpыс Сканзікас з 336-га дывізіёна ВПС Грэцыі; чэхаславацкі пілот, капітан 311-га дывізіёна Арност Валента, палякі: маёр Антоні Кеўнарскі, паручнік-навігатар Уладзімір Каланоўскі, паручнік Ежы Мондшайн, паручнік Павел Табольскі, паручнік Станіслаў Паўлюк, паручнік Казімір Круль і яшчэ 40 удзельнікаў той гераічнай, але няўдалай аперацыі.

Перад уваходам на могілкі знаходзіцца адмысловы сейф, дзе ляжыць сшытак з указаннем іменаў усіх, хто пахаваны на гэтых могілках. Акрамя гэтага там ёсць кніга водгукаў, у якую кожны, хто наведае мемарыял, можа напісаць усё, што думае і адчувае. Абавязкова наведайце гэтае месца і пакланіцеся памяці жаўнераў антыгітлераўскай кааліцыі.

# Футбол вырашылі «раскулачыць»

Сяргей КАЙКО

**«Ты бачыш на мне гэтыя порткі? Гэта велікодныя порткі! Раней я надзяваў іх толькі на Вялікдзень, але цяпер нашу кожны дзень...»**

Словы ільфа-пятроўскага Фунта сёння дарэчныя, як яйка да Хрыстова дня. Бо акурат пад велікодныя святы беларускія футбалісты згулялі чарговы тур першынства краіны, а незадоўга да таго даведаліся, што ўлюбёная дзяржава наважылася моцна іх пакрыўдзіць — адным махам падрэзаць матэрыяльныя выгоды. Не, нацягваць апошнія нагавіцы гэта хлопцаў не прымусіць, але адчувальна зацягнуць паясы давядзецца. І заадно — задумацца пра далейшае існаванне ў прафесіі.

Такое настае жыццё. Грошай на футбол у краіне не хапае. Тыя, хто падпісваў ліст праўладных спартсменаў, павінны прыняць новыя стандарты з непадробнай удзячнасцю.

## У Гродне спее адстаўка

Што да гульняў сёмага тура, то яны зноў цалкам упісаліся ў нашу сёлетнюю лінейную рэчаіснасць. Мы ўжо падкрэслівалі: беларускі футбол цяпер прадказальны, як рэакцыя міліцэйскага патруля на любую БЧБ-расфарбоўку на шыбах шматпавярховіка. Мінулыя выходныя гэта толькі пацвердзілі.

«Шахцёр» перамог і застаўся на першым радку табліцы. БАТЭ перамог і застаўся на другім. Мінскае «Дынама» таксама не схібіла, і яно цяпер трэцяе. Калі ў вас ёсць азарт і лішнія грошы, то можаце занесці іх у бліжэйшы букмекерскі шапік — ды паставіць на тое, што гэтая тройка ды ў гэтым парадку захаваецца да фінішу. Добрая верагоднасць, што ўвосень вы выйграеце — і крыху паправіце свае фінансавыя справы. Пры ўмове, зразумела, што за паўгода ўкладанні не зжарэ бязлітасная інфляцыя.

Прайграла «Смаргонь», прайграў «Спадарожнік» — унізе табліцы таксама ўсё стабільна. І зусім бы ўжо было самотна навічкам вышэйшай лігі, каб не занядужаў раптам «Нёман». Летась гродзенцы цудоўна гойсалі па футбольных палях і ледзьве не вырвалі медалі. Аднак у гэтым чэмпіянаце нешта адразу пайшло не так. Чаму? Мо карма адгукаецца, бо ў чарзе на падпісанне праўладнага ліста нёманцы апынуліся ці не першымі — падтрымкай дзейнага курса пахвальна адзначыліся клубнае кіраўніцтва і трэнерскі штаб. А мо, банальнае «пахмелле», бо год таму занадта ўжо высока ўзляцела каманда — вось цяпер кіслароднае галадаванне і гне яе долу.

Як бы тое ні было, але галоўны трэнер «Нёмана» ўжо абвясціў пра сваю адстаўку. «Я прыняў такое рашэнне...» — сказаў Ігар Кавалевіч пасля паразы ад «Іслачы». Яшчэ як прыйдзецца — пасля сямі тураў у гродзенцаў аніводнай перамогі і і апошнее месца ў пелетоне.



Фота прэс-службы ФК «Шахцёр»

## Скарачэнне заробкаў

А цяпер пра галоўнае — пра што гудуць нашы футбольныя кулуары ўжо каторы дзень. Пра грошы, якіх стане значна меней, бо так вырашылі партыя і ўрад. Бо такая — калі паглядзець у корань — эканамічная сітуацыя склалася ў бесперапынна квітнеючай Беларусі.

Нарэшце ўраду, дарэчы, анікага перабольшвання. Рашэнне «раскулачыць» футбалістаў прынятае менавіта на ўзроўні Саўміна і апублікавана на адпаведных інтэрнэт-пляцоўках за подпісам прэм'ер-міністра Рамана Галоўчанкі. Раней у тым жа кірунку спрабавала корпацца федэрацыя, але, відаць, яе высілкі не падаліся наверсе пераканаўчымі. І тады за рычагі пацягнула дзяржава.

У чым сутнасць абвешчанай «харчразвёрсткі»? Не будзем катаваць чытача лічбамі — выдзелім галоўнае. Яно палягае ў тым, што высокім рашэннем усталёўваюць столь заробкаў. То-бок чырвоную рысу, перасякаць якую забаронена. Менш плаціць — можна, болей... Тады, паводле нашай гуманнай логікі, можна аднойчы дачакацца ў госці прадстаўнікоў дзяржкантролю. З усімі выцякаючымі наступствамі.

Ключавая лічба новай, «аптымізаванай», сістэмы аплаты працы футбалістаў — каля васьмі тысяч рублёў. Дый на яе змогуць з чыстым сумленнем арыентавацца толькі гульцы тых клубаў, якія ў мінулым чэмпіянаце сталі прызёрамі (наўпрост цяпер гэта «Шахцёр», БАТЭ і жодзінскае «Тарпеда»). Астатнім наканавана зменшыць апетыты яшчэ болей. І чым ніжэй у табліцы фінішаваў клуб год таму, тым прапарцыянальна больш сціплым будзе для такога фонд заробкаў.

Выключэнне прадугледжана толькі адно — для футбалістаў зборнай. Такі пачэсны статус дасць дазвол працадаўцу на максімальны заробак у памеры 15 тысяч рублёў.

Што адметна: аналагічныя меры стрымання будуць тычыцца іншых гульнявых відаў спорту — уключна з хакеем. Што адметна ўдвая: падпісаная прэм'ерам Галоўчанкам пастанова датаваная 20 сакавіка і «набывае моц пасля яе афіцыйнага апублікавання». Гэта значыць, што прама пасярод сезона клубам патрэбна ўціскаць гульцоў па важным грашовым пытанні.

## Дык хіба гэтага мала?

Маладасведчанага чытача, вядома, надта здзівяць нават гэтыя скарочаныя сумы. Маўляў, як так — ажно восем тысяч? Тры тысячы долараў? За што? Каму? Тым майстрам скуранога мяча, лепшыя з якіх здатныя толькі на тое, каб атрымаць ад бельгійцаў восем безадказных галоў?

І галоўнае — гаворка ж ідзе пра бюджэтныя сродкі, грошы падаткаплацельшчыкаў. Дык чаго іх у такой колькасці ўкідваюць у футбол, з якога мала карысці, а не аддаюць, напрыклад, у медыцыну ці адукацыю?

Ну што сказаць... Такая вось яна — сістэма нашага «рыначнага сацыялізму». З аднаго боку, каб канкураваць, трэба адпавядаць сусветным футбольным трэндам. А там футбалісты — людзі заможныя. З іншага боку, на Захадзе футбол сам зарабляе — і сам жа заробленым распараджаецца. Зарабляе — на рэкламе, квітках і «мерчы», на тых жа тэлевізійных правах. Адпаведна, і хапае з таго на астранамічныя заробкі для рухавікоў дый простых працаўнікоў індустрыі.

У Беларусі ж рынка няма — і не толькі ў спорце. Зарабіць футболам немагчыма, бо ўсё спрэс дзяржаўнае — тэлебачанне, стадыёны, наогул самі клубы. Што тады застаецца? Правільна: па-багатаму чэрпаць з бюджэту, абдзяляючы іншых і спараджаючы ў грамадстве вядомыя класавыя пачуцці.

З гэтага гледзішча ўрадавае рашэнне можа ўспрымацца і як адзіна правільнае. Прынамсі, сярод беларусаў заўсёды хапала тых, хто адносна футбалістаў выказваўся з катэгарычнасцю ката Матроскіна: маўляў, дарма мы іх кормім. І ў гэтым сапраўды ёсць рацыя, бо, скажам, у «Шахцёры» сёння нікога не здзівіш месячным заробкам у раёне 10–20 тысяч долараў. Не здзівіш гэтым нават мясцовых гарнякоў з «Беларуськалія», з чыёй цяжкай працы на шырокую нагу жыве тая самая каманда, што мінулым летам ганебна вылецела з еўракубкаў пасля паразы ад сціплага суперніка з невялікай малдаўскай вёскі.

То-бок, улады, магчыма, кіруюцца слушнымі матывамі — тым больш час такі, што заўтра, можа, будзем лічыць капейкі. Але ж па форме, як ні паглядзі, атрымліваецца спрэс крыва. Хацелі як найлепш — атрымліваецца як заўсёды.

## Якія будуць наступствы?

Найлепшыя (і, значыць, высокааплатныя) гульцы вышэйшай лігі за кропкавымі выключэннямі сканцэнтраваныя ў чатырох клубах — «Шахцёры», БАТЭ, мінскім «Дынама» і брэсцкім «Руху». Берасцейцаў тут адразу варта вынесці за дужкі, бо клуб належыць бізнесоўцу Аляксандру Зайцаву — уласнасць прыватная, таму дзяржаўнае рэгуляванне заробкаў яго не датычыцца.

А вось астатняя тройца — тая самая «мэтавая аўдыторыя», па якой новыя правілы мусяць ударыць балюча. Бо рэзаць заробкавыя ведамасці тут трэба найбольш жвава і радыкальна. Самае надзённае — калі звяртацца да формы — як гэта зрабіць пасярод сезону? Вельмі хутка і імгненна — без усялякіх прынцыпаў паступовасці і іншых буферных перыядаў? Кантракты падпісаныя самае позняе зімой і дзейнічаюць. Усе паперы зарэгістраваныя і маюць канкрэтныя тэрміны. Улазіць у гэтую бухгалтэрыю ў разгар чэмпіянату з хірургічным інструментам і бальшавіцкім імпэтам — іскры паляцяць непазбежна. І калі вядучыя клубы не знойдуць шляхоў неяк абыйсці новыя нарматывы (такое таксама імаверна ў нашых спецыфічных праўных рэаліях), то гарантаваныя канфлікты, карупцыйныя рызыкі і іншыя незваротныя наступствы.

Самае відавочнае з наступстваў — банальны сыход лепшых гульцоў, і асабліва легіянераў. Тых, каго не ўсцешыць столь у тры тысячы долараў — і каму за мяжой могуць плаціць болей. А могуць шмат дзе — Расія (другі дывізіён), Украіна, Казахстан, сярэдняй рукі заходнія чэмпіянаты... Дзе-нідзе сёння нават у Латвіі могуць прапанаваць годны кантракт, і туды апошнім часам беларусы пацягнуліся жвавым ланцужком. Пацягнуцца, калі што, і цяпер — і нашы майстры, і тым больш легіянеры, перад якімі ўвогуле адкрыты ўвесь свет.

Ну а рэзкае збядненне беларускага першынства на гучныя імёны потым абавязкова адгукнецца ў еўракубках — і гэты водгук мала каму спадабаецца. Дый сама вышэйшая ліга праз такое ўзрушэнне моцна здрыганецца, збляе і страціць нават той невялікі рэйтынг, які зарабіла цягам апошніх дзесяцігоддзяў.

Але што ж ты зробіш — грошай няма, а на дрэвах яны не растуць. І ў кішэнях велікодных штаноў таксама самі па сабе не з'яўляюцца.

## Чэмпіянат Беларусі

**ТУР 7. 29.04.** СЛУЦК — ДЫНАМА (Брэст) — 1:1 (680; Бочараў, 36 — Беленькі, 62).

**30.04.** РУХ (Брэст) — СЛАВІЯ (Мазыр) — 2:1 (390; Ёвіч, 46+, Кікі, 85 — Слюсар, 74). ДЫНАМА (Мінск) — ЭНЕРГЕТЫК-БДУ (Мінск) — 2:0 (2053; По, 43, Мбенг, 48). ВІЦЕБСК — ГОМЕЛЬ — 0:0 (983).

**1.05.** СПАДАРОЖНІК (Рэчыца) — ШАХЦЁР (Салігорск) — 1:2 (850; Сміт, 32 — Дзябелка, 24, Сачыўка, 36). БАТЭ (Барысаў) — СМАРГОНЬ — 1:0 (2100; Скавыш, 11). ТАРПЕДА-БЕЛАЗ (Жодзіна) — МІНСК — 2:1 (915; Мантэйра, 12, Кірыленка, 57 — Адэаіба, 53 — аўтагол). НЁМАН (Гродна) — ІСЛАЧ (Мінскі раён) — 1:2 (550; Забелін, 78, з пенальці — Камароўскі, 3, Юсаў, 62, з пенальці).

**ТУР 8. 7.05.** Смаргонь — Нёман, Гомель — Слуцк. 8.05. Рух — Спадарожнік, Мінск — Віцебск, Славія — Дынама Бр. 9.05. Шахцёр — БАТЭ, Энергетык-БДУ — Тарпеда-БелАЗ, Іслач — Дынама Мн.

| | | Г | В | Н | П | М | А |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. | Шахцёр | 7 | 7 | 0 | 0 | 20-4 | 21 |
| 2. | БАТЭ | 7 | 5 | 2 | 0 | 15-6 | 17 |
| 3. | Дынама Мн. | 7 | 4 | 2 | 1 | 11-4 | 14 |
| 4. | Дынама Бр. | 7 | 3 | 4 | 0 | 9-2 | 13 |
| 5. | Рух | 7 | 3 | 3 | 1 | 12-8 | 12 |
| 6. | Гомель | 7 | 3 | 3 | 1 | 10-6 | 12 |
| 7. | Іслач | 7 | 4 | 0 | 3 | 11-11 | 12 |
| 8. | Тарпеда-БелАЗ | 7 | 3 | 1 | 3 | 5-9 | 10 |
| 9. | Мінск | 7 | 2 | 2 | 3 | 9-10 | 8 |
| 10. | Віцебск | 7 | 1 | 5 | 1 | 2-1 | 8 |
| 11. | Слуцк | 7 | 1 | 3 | 3 | 5-9 | 6 |
| 12. | Энергетык-БДУ | 7 | 1 | 2 | 4 | 6-8 | 5 |
| 13. | Славія | 7 | 1 | 1 | 5 | 6-12 | 4 |
| 14. | Смаргонь | 7 | 1 | 1 | 5 | 3-15 | 4 |
| 15. | Спадарожнік | 7 | 1 | 0 | 6 | 3-16 | 3 |
| 16. | Нёман | 7 | 0 | 3 | 4 | 3-9 | 3 |

# ДЗЕНЬ НАРОДЗІНАЎ ЗА КРАТАМІ

**Знаёмцеся з тымі, у каго дзень народзінаў у траўні. Павіншуйце палітвязняў паштоўкай ці тэлеграмай або адпраўце грашовы перавод да свята.**



## 1 траўня

Сваё 54-годдзе адзначыў **Уладзімір Шынкевіч**. Пакараны пазбаўленнем волі на адзін год і тры месяцы ў калоніі агульнага рэжыму. Па версіі следства, апублікаваў у «Одноклассниках» зневажальны пост у дачыненні да Лукашэнкі. Што канкрэтна ўтрымлівала публікацыя, невядома, бо справа разглядалася на закрытым судовым пасяджэнні.

**Адрас для лістоў: СІЗА-2. 210026, г. Віцебск, вул. Гагарына, 2.**

## 3 траўня

18 гадоў споўнілася **Віталю Прохараву** — жыхару Жлобіна. Згодна з абвінавачваннем, на акцыі пратэсту 10 жніўня Прохараў шпурнуў не менш за адзін камень у аўтазак, чым прычыніў матэрыяльную шкоду аўтамабілю. Яго затрымалі ў той жа дзень амапаўцы і моцна збілі.

8 лютага Віталю Прохараву прысудзілі 2 гады выхаваўчай калоніі.

**Адрас для лістоў: Выхаваўчая калонія №2. 213807, г. Бабруйск, вул. Генерала Батава, 4.**

## 4 траўня

40 гадоў споўнілася **Алегу Яфрэменку** — жыхару Віцебска. Яго абвінавацілі ў тым, што падчас акцыі ён зрабіў падсечку міліцыянту. З-за гэтага міліцыянт упаў і падрапаў далоні. Яфрэменка быў затрыманы ў той жа дзень.

9 снежня суддзя Першамайскага раёна Віцебска Наталля Карабліна асудзіла яго да пазбаўлення волі на чатыры з паловай гады з адбываннем пакарання ў папраўчай калоніі агульнага рэжыму.

**Адрас для лістоў: ПК №15. 213105, г. Магілёў, п/а Вейна, Слаўгарадская шаша, 183.**

## 5 траўня

47 гадоў споўнілася **Андрэю Уладзіміравічу Цімафеенку** — жыхару Віцебска, якога абвінавацілі ў гвалце ў дачыненні да супрацоўніка МУС падчас «Маршу еднасці» 6 верасня. 2 снежня ў судзе Кастрычніцкага раёна Віцебска суддзя Сняжана Кіндзеева прысудзіла яго да двух гадоў пазбаўлення волі ў калоніі агульнага рэжыму.

**Адрас для лістоў: ПК №22. 225295, Брэсцкая вобласць, г. Івацэвічы, ст. Даманава, а/с 20.**

## 6 траўня

21 год споўніўся **Данілу Бандаруку** — фігурант крымінальнай справы аб масавых беспарадках у Брэсце пасля выбараў.

Даніла Бандарук — са шматдзетнай сям'і, старэйшы з васьмярых дзяцей. Каб дапамагчы бацькам забяспечыць сям'ю, пасля вучобы ў Брэсцкім дзяржаўным прафесійна-тэхнічным каледжы прыборабудавання з'ехаў у Мінск, дзе працаваў на кладцы тратуарнай пліткі.

Данілу затрымалі 22 жніўня (таксама быў затрыманы яго стрыечны брат Марк Салонікаў).

**Адрас для лістоў: СІЗА-7. 224030, г. Брэст, вул. Савецкіх памежнікаў, 37.**

31 год споўніўся **Аляксандру Францкевічу** — актывісту анархісцкага руху. Ён быў затрыманы 13 жніўня на выхадзе з пад'езду дома, дзе пражываў. 28 студзеня стала вядома, што супраць яго, а таксама супраць палітвязняў Акіхіра Гаеўскага-Ханады, Андрэя Чапюка і яшчэ некалькіх чалавек распачата крымінальная справа паводле ч. 2 арт. 285 КК «Удзел у злачыннай арганізацыі ў любой іншай форме».

**Адрас для лістоў: СІЗА-1. 220030, г. Мінск, вул. Валадарскага, 2.**

## 10 траўня

39 гадоў споўніцца **Івану Зянько** — жыхар Мінска, асуджанаму на пяць гадоў пазбаўлення волі ў калоніі агульнага рэжыму.

Падзеі, за якія асудзілі мужчыну, адбываліся пасля 17 гадзін 11 кастрычніка 2020 года. Падчас разгону «Маршу гонару» каля станцыі метро «Пушкінская» ён і яшчэ трое абвінавачаных, як вынікае з матэрыялаў следства, перашкодзілі амапаўцам затрымаць чалавека, уступілі з імі ў бойку, нанеслі некалькі ўдараў па галовах і разбілі шкло ў службовым аўтамабілі.

**Адрас для лістоў: Турма №4. 212011, г. Магілёў, вул. Крупскай, 99А.**

50-годдзе за кратамі сустрэне **Сяргей Пятрухін** — аўтар ютуб-каналаў «Народны рэпарцёр» і «Youtube-дэпутаты».

16 чэрвеня ён быў затрыманы ў вёсцы пад Пухавічамі. Пакараны трыма гадамі зняволення ў калоніі агульнага рэжыму.

**Адрас для лістоў: Турма №4. 212011, г. Магілёў, вул. Крупскай, 99А.**

## 11 траўня

21-годдзе сустрэне за кратамі **Віктар Акцістаў**, студэнт Інстытута прадпрымальніцкай дзейнасці, вывучаў спецыяльны пераклад на факультэце бізнесу і права. Віктар асуджаны 30 снежня на 2,5 гады калоніі. Пад вартай знаходзіцца з 21 верасня. Быў моцна збіты пры затрыманні 10 жніўня, бацькі на працягу некалькіх дзён не маглі знайсці яго.

**Адрас для лістоў: ПК №15. 213105, г. Магілёў, п/а Вейна, Слаўгарадская шаша, 183.**

## 12 траўня

27-годдзе адзначыць за кратамі **Іван Багдзевіч**. Да затрымання займаўся рамонтам аўтамабіляў. Мае трох маленькіх дзяцей. Актыўна ўдзельнічаў у пошуках зніклых людзей з ПВА «Анёл». Захапляецца рыбалкай.

Быў затрыманы 19 кастрычніка дома ў вёсцы Рыбцы Пухавіцкага раёна. Затрымліваць Івана прыехаў бус са ўзброеным АМАПам.

**Адрас для лістоў: СІЗА-1. 220030, г. Мінск, вул. Валадарскага, 2.**

33 гады споўніцца **Расціславу Стэфановічу** — дызайнеру і архітэктару, сябру пашыранага складу Каардынацыйнай рады, гульцу каманды па амерыканскім футболе «Мінскія Зубры». Расціслаў — аўтар шматлікіх праектаў кватэр, кавярняў і іншых будынкаў у Беларусі і за мяжой: ВК «Алімпік-Парк», будынкаў ДВА «Белэнерга», кафэ «Масква». Увечары 29 верасня быў збіты і затрыманы, калі ад'ехаў па працоўных справах. 9 кастрычніка яму выстаўленыя абвінавачанні паводле ч. 2 арт. 293 КК.

**Адрас для лістоў: СІЗА-1. 220030, г. Мінск, вул. Валадарскага, 2.**

17 гадоў споўніцца **Мікіту Залатарову**. Яго затрымалі 11 жніўня. Бацька расказваў журналістам, што Мікіту збівалі ў міліцыі і СІЗА. Мікіта адмовіўся даваць паказанні, карыстаючыся сваім правам не сведчыць супраць сябе. Суддзя Дзмітрый Дзябой пакараў непаўналетняга Залатарова пяццю гадамі выхаваўчай калоніі.

**Адрас для лістоў: СІЗА-3. 246003, г. Гомель, вул. Кніжная, 1А.**

## 13 траўня

19-годдзе сустрэне за кратамі **Аляксандр Кісялёў** — жыхар Жлобіна. Быў затрыманы і адміністрацыйна асуджаны за ўдзел у мірнай акцыі пратэсту ў ноч з 11 на 12 жніўня.

25 лютага суддзя жлобінскага суда Яўген Ерафееў пакараў Кісялёва 3 гадамі пазбаўлення волі ў калоніі агульнага рэжыму.

**Адрас для лістоў: СІЗА-3. 246003, г. Гомель, вул. Кніжная, 1А.**

# «З нас — плыт, з цябе — чыфір»

**Свой дзень народзінаў сустрэў за кратамі Аляксей Беразінскі. Ён пакараны трыма з паловай гадамі пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму.**

Аляксея віншуе брат Максім:

— 5 траўня табе 36 гадоў, 6 траўня — 200 дзён за кратамі. Хоць ты два дні запар гуляй. Але ў вас там, і ў нас тут — суцэльны здаровы лад жыцця. Шампанскае чакае свайго часу.

Калі ўсё добра, то цяжка зразумець, што шчасце — гэта калі ўся сям'я разам, калі ты можаш патэлефанаваць ці прыехаць. Ці нават паслаць у дупу.

І чым больш праходзіць часу, тым лепш разумееш: гэта сапраўдны іспыт. Асабліва для дзяцей, якія пазбаўленыя бацькі. А Мар'яну цяпер якраз бы чароўны падсрачнік не зашкодзіў бы. Вось гэтая ізаляцыя — самае дрэннае. І галоўнае: як гэта станоўча можа паўплываць на тых, хто за кратамі? Рытарычнае пытанне.

Дык вось: 200 дзён. З аднаго боку, усё тое, што пачыналася ў жніўні-2020, вельмі зацягнулася. Але, з другога, у траўні-2020 быў абсалютна іншы парадак дня. Ты памятаеш? Унутраная эміграцыя стала звычайным станам для большасці беларусаў. Усе жылі — патроху і як-небудзь. А цяпер — не. Відавочна, што запіхнуць гэтую пасту ў цюбік не атрымаецца. Табе, можа, цяжка адтуль, гледзячы «Панараму», паверыць, але тут шмат адбываецца такога, што робіць беларусаў нацыяй. Так, як ты і хацеў.

Пытанне толькі ў часе. А час — на нашу карысць. Гэта як бы твой «Манчэсцер Юнайтэд» выйграваў бы ў фінале Лігі чэмпіёнаў 2:0 і да канца заставалася б колькі хвілін... Супернік ідзе ў атаку, а трапляе ў палон. 3:0 — і кубак уздымае капітан Магуаер.

У часе будзе пытанне і ў той момант, калі ты зноў апынешся на волі. Тут ужо шмат планаў. Дачка Варвара хоча абняць цябе, старэйшы сын Мар'ян — на рыбалку, малодшы — Сцёпка — проста згуляць у футбол (пастаіш на браме?). Жонка таксама нечага хоча, але не кажа — чаго. Бацька чакае, каб пачытаць натацыі («я ж казаў»).

Піваварaў рыхтуе плыт ды маршрут (рэцэпт чыфіру для пасядзелак каля вогнішча — з цябе). З мяне — плоў. З Пятровіча — лазня. З Хадасевіча — яшчэ адна паездка ў Каўнас, Кот таксама гатовы. Другі Піваварaў чакае ў Штатах.

А маці... Маці проста хоча ўсіх сабраць у хаце за адным сталом. Такое простае і такое немагчымае жаданне зараз. Але нават дзядзька Мар'ян з сваёй Поўначы зразумеў усё пра Лукашэнку (нарэшце!) — магчыма, падцягнецца. Карацей, заняцца будзе чым.

Падарункі зараз цяжка табе перадаць. Таму вось табе верш.

*Калі нехта кажа: «Бывай!» — гэта шчэ не значыць — канец.*
*І хаця ў канвульсіях край, рана канстатаваць смерць.*
*І хаця не відаць — куды, і надзея — ні на каго,*
*Ты паслухай: звіняць званы. Гэта з намі гаворыць Бог.*
*Гэта — скрозь цемру прамень. Гэта — вецер, што рве смугу.*
*Гэта — новы сонечны дзень. Гэта — праз забароны рух.*
*Гэта — годна падняты сцяг. Гэта — шыхт, што гатовы ў бой.*
*Гэта — крыж на тваіх плячах. Гэта — людзі разам з табой.*
*Гэта — тысячы моцных ног, што пячатаюць цвёрды рытм.*
*Гэта — не яны. Ведае Бог: гэта — мы! Гэта — мы!*
*Ты пачуеш: звіняць званы. Калі здольна пачуць душа*
*Голас продкаў з далечыні, голас, што не заглушыць час,*
*Голас памяці гэтай зямлі, гэтых рэчак, гэтых лясоў,*
*Тых народаў, што тут жылі... Ты паслухай: мацнее звон.*

З днём народзінаў! Хутка ўсё скончыцца! Наша задача — паскараць. Ваша задача — трываць. Адмысловы медаль ужо чакае цябе. Моцна цісну руку.

**Адрас для лістоў: СІЗА-1. 220030, г. Мінск, вул. Валадарскага, 2**



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (с) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 17 347-52-81; +375 29 625-57-51,
novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279.

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.
ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №755

Падпісана да друку 06.05.2021. 8.00. Наклад 7000 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.